PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (2061) ГОД XL БЕЛАСТОК 12 ЛІСТАПАДА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Урок беларускай мовы ў класе I "д" Гайнаўскага беларускага ліцэя вядзе настаўніца Вольга Сянкевіч (артыкул пра пабыўку ўрадавай дэлегацыі Беларусі на Беласточчыне чытайце на стар. 8).* Фота Ады Чачугі

*Генадзь Бураўкін*

## Сённяшні дзень беларускай прэсы — развагі і праблемы

Гістарычна не так ужо і даўно бацькі і палітрукі бальшавіцкай ідэалогіі называлі прэсу то калектыўным агітатарам, прапагандыстам і арганізатарам мас, то разведчыкам будучыні, то прываднымі рамянямі партыі. Чым толькі не спрабавалі яны зрабіць савецкія газеты — і сваімі паслужлівымі „афіцыянтамі”, і бязлітаснымі суддзямі, і грознымі наглядчыкамі, і прымітыўнымі блазнамі. І трэба аддаць належнае жалезным „чырвоным інквізітарам”: іх шматгадовая карпатлівая праца не была марнай. Тыя нямногія выданні і журналісты, што лічылі сваім прафесійным і чалавечым абавязкам гаварыць і абараняць праўду, як пасаджаныя ў цесную клетку птушкі, роспачна біліся аб халодныя краты, раскідаючы наўкруг пер’е і крывава ламаючы крыллі. Бывала, іх палахліва падтрымлівалі і нават тайна паважалі, час ад часу мяняючы клетку на прастарнейшую і цярпліва чакаючы, калі яны выб’юцца з сіл і супакояцца ці самотна сканаюць. Было...

А што ж сёння, у перыяд мірнай, непаслядоўнай, але небывалай ломкі і старога дзяржаўнага механізму, і закасцянелых грамадскіх адносін, і абачлівай, а па сутнасці сваёй — рабскай людской псіхалогіі?

Будзем справядлівымі, зрухі да лепшага ёсць. Пры ўсіх відавочных выдатках і крыўдных праліках так званая перабудова дала ўсім нам і, можа, найбольш прыкметна — сродкам масавай інфармацыі асвяжальны глыток духоўнай разняволенасці і яшчэ крывы, неадгабляваны, але надзейны посах дэмакратызацыі. Дастаткова ўважліва прачытаць „афіцыйныя” „Звязду”, „Народную газету”, часамі — „Рэспубліку”, не кажучы ўжо пра „Літаратуру і мастацтва”, „Беларускую дзелавую газету”, „Феміду”, зусім юную „Народную волю”, каб знайсці ў іх і самастойную пазіцыю, і арыентацыю на годнасць, і задзірыстае непаслухмянства. Журналісты ўжо далёка не заўсёды спалохана азіраюцца на блішчастыя зорачкі на пагонах палітычных цівуноў і спакойна, а то і з усмешкай рэагуюць на пагрозлівы віскат і самаздаволенае размахванне валасатым кулаком нахабных кандыдатаў у дыктатары. Часы, як кажуць, ужо не тыя.

Але ж як карціць прыблудным палкоўнікам беларускай бюракратыі пачуць знаёмае парыпванне прывадных рамянёў і дысцыплінаванае ляскание сцёртымі абцасамі! Свабоду дзеянняў яны пакідаюць толькі сабе, ад іншых патрабуючы жорсткага падначалення і славутага „парадку”. І — чаго хаваць грахі — у нашага брата не заўсёды хапае мужнасці супрацьстаяць самадурству і палітычнаму вераломству чыноўнікаў. Тады і атрымліваецца — асабліва ў тэлевізійных праграмах, — што ў сацыяльных ці працоўных канфліктах слова даецца толькі аднаму боку, факты хітра адбіраюцца і асвятляюцца, а то і проста адкідаюцца, саступаючы месца хлуслівым дэмагагічным каментарыям і катэгарычным начальніцкім загадам.

Што тут можна зрабіць у краіне, якая ніяк не здолее стаць на ўласныя ногі і толькі з чужога вопыту чэрпае ўяўленні аб прававой дзяржаве і свабодзе асобы? Пры невысокай палітычнай культуры большасці насельніцтва, пры яе генетычнай пакорлівасці лёсу, пры сіберным халадку „сталінска-яжоўскай” памяці ў знявераных душах, напэўна, цяжка разлічваць на масавыя

*Працяг на стар. 9*

*Мікола Ваўранюк*

## Бардаўская восень’95

Вядучая — вядомая з тэлебачання **Маргарыта Пракапюк** — папрасіла на сцэну гурт з Ліцэя Тарашкевіча **Вядро**. Калі ўвайшла іх салістка, **Эмілька Астапчук**, зала прыціхла, не могучы вырашыць, каторая з дзяўчат — прыгажэйшая.

* * *

На „Бардаўскай восені’95” не было такіх узнёслых момантаў, як на першым фестывалі. Ніхто так не пакарыў публікі, як летась Віктар Шалкевіч і „Белы сон”. Але не было і слабых, нецікавых выканаўцаў, або „мяўкалаў”, як пяшчотна назваў іх адзін мой сябра.

Крыху стаміў гледачоў у самым пачатку суботняга канцэрта **Воўка Кандрыкінскі**, які хацеў праспяваць як найбольш, не аглядаючыся на якасць. Амаль гадзіну не адходзіў ён ад мікрафона, быццам лірычны герой песні польскага акцёра Ежы Штура *(Ja stoję przy mikrofonie i niech mnie który przegoni),* аж арганізатарам давялося свістаць з-за кулісаў, каб ён урэшце скончыў. Шкада, бо Воўка спяваць умее, чаго доказам хаця б леташняя ўзнагарода Рады бацькоў пры Пачатковай школе н-р 3 у Бельску.

Сёлета гэтую ўзнагароду павезла ў Менск **Кася Камоцкая**, непаўторны голас якой ды словы песень абараніліся пад акампанемент аднае гітары, хаця яшчэ лепш слухаюцца, калі іграе цэлае „Новае неба”. Кася спявала пра самоту ў вялікім горадзе, пра пакаленне, якое „вечна чакае Калядаў” і „сніць у трамваі”, але і „Прэзідэнт, ідзі дамоў!” — песню, якую забаранілі на менскім радыё і тэлебачанні. Здавалася б, што закранутыя ў ёй праблемы могуць быць чужымі, незразумелымі моладзі на Беласточчыне. Рэакцыя публікі сведчыла аб адваротным.

Пра вялікую палітыку спяваў таксама гурт з падбеластоцкіх Засценак **Кардон**, які не толькі добра гучыць на рок-сцэне, але і ўмее ўпісацца ў камерную імпрэзу. Лідэр гурту **Крыстафор Сяськевіч** заявіў, што два найбольшыя няшчасці Беларусі, гэта Чарнобыль і Лукашэнка. А потым спяваў:

*... ад гэтай радыяцыі*
*ў галаве ў цябе х...я,*
*Лукашэнку выбраў ты!*

Песня „а прыродзе”, як яе заказаў Крыстафор, „А мая айчына-маці травой зарастае”, гэта, куды больш за звычайны хіт. Яна становіцца гімнам гарадскога пакалення, маніфестам супраць матэрыялізму і бяздушнасці старэйшых, супраць парожніх унутры, дэнацыяналізаваных бацькоў. **Кардон** узбагаціўся гармонікам **Петруся Пракопчыка** і гучыць сапраўды першакласна. Спадзяюся, што ўзнагарода Беластоцкага радыё — запіс у прафесійнай студыі — будзе для хлопцаў стымулам для далейшага развіцця і нагодай на выхад у шырэйшы свет.



*Пераможца конкурсу Алесь Камоцкі.* Фота Аліны Ваўранюк

Агульнаадукацыйны ліцэй імя Тарашкевіча ўзнагародзіў сваіх вучняў — гурт **Вядро**, які састаўляюць вакал **Эмількі Астапчук** і акампанемент хлопцаў на дзвюх гітарах, акустычнай і электрычнай, ды на фартэпіяна. Стараюцца яны пісаць песні самі, але большасць яшчэ — на гатовыя вершы. Найчасцей — на вершы Віктара Шведа. Яго словы выкарыстоўвалі і іншыя выканаўцы, што дае мне поўнае права сцвердзіць: **Віктар Швед — найбольш папулярны сярод моладзі беларускі паэт, улюбёны аўтар іхніх песень.**

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Współczesny kołtun pragnie być nowoczesny. Przedstawia siebie jako profesjonalistę w każdej dziedzinie. Nowy kołtun czerpie z najłatwiej przyswajalnych wzorów Zachodu. Potrafi trzymać nogi na stole, ręce w kieszeniach i w ogóle jest „na luzie". Odrzucił cały dawny savoir-vivre, który nakazywał przepuszczanie w drzwiach, szacunek dla starszych, miłosierdzie dla słabszych.*

*Cham zatryumfował w nowych dekoracjach. Cham jest wieczny. Definicją chama jest arogancja, absolutna pewność siebie, że mu się należy, a nic go nie obowiązuje. Cham nie szanuje cudzej egzystencji, ponieważ uważa, że świat został stworzony po to, żeby mógł zaistnieć on i żadnej zagadki bytu wobec tego nie ma. Cham wie wszystko, wie wszystko najlepiej i nie musi się dowiadywać niczego.*

*Polityka, nr 42*

* * *

*Polska jest przeżarta korupcją i łapówkami jak stary drewniany barak kornikami,* — піша Станіслаў Тым.

*Wprost, nr 43*

* * *

*Faszyzm i komunizm to bliźnięta-bracia, ponieważ wyrastają z jednego korzenia, który nazywa się państwo totalitarne, czyli państwowa machina podporządkowująca sobie wszystko: ciała, myśli, nadzieje obywateli, ich teraźniejszość i przyszłość. Jeden dla wszystkich sens życia, jedna obowiązująca wszystkich estetyka, jednakowe kryteria tego, co piękne i szkaradne, jeden wódz i — rozumie się — jeden wróg. I jeszcze podział na „naszych" i „nie naszych". Faszyści dzielą ludzi według kategorii rasowych i narodowościowych, a komuniści według klasowych. Walka z „nie naszymi" musi być absolutnie bezlitosna — do ostatniej kropli wrażej krwi, więc niezbędna jest potężna armia i wszechobecna tajna policja. I tam, i tam społeczeństwo jest zmilitaryzowane, i tam, i tam kwitnie donosicielstwo. Jednakowy — pogardliwy stosunek do inteligencji, jako warstwy gotowej służyć każdemu i jednocześnie produkującej zawziętych wrogów reżimu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 247*

* * *

*W Białymstoku mieszka 50 tysięcy Ukraińców, w Bielsku Podlaskim ok. 15 tysięcy,* — сказаў Влодзімеж Якімчук, старшыня ўкраінскага кружка ў Беластоку.

*Gazeta w Białymstoku, nr 247*

Нам здаецца, што ў Беластоку пражывае што найменш 200 тысяч украінцаў. Толькі на Святога Роха, каля белага касцёла збіраецца (пры канцы жніўня) амаль 100 тысяч былых уніятаў.

* * *

*За першых сем месяцаў 1995 г. на ахову здароўя выкарыстана толькі 29% запланаваных сродкаў, амаль столькі ж на культуру, а на ўтрыманьне прэзідэнта, яго адміністрацыі, службаў і органаў дзяржаўнага кіраваньня — 95 працэнтаў. Гэта значыць, што за пайгода выкарыстаны амаль увесь гадавы бюджэт, запланаваны па гэтых артыкулах. Прэзыдэнцкае атачэньне разьяжджаецца на дарагіх аўтамабілях зь вялікім шыкам. Бранiраваны „Мэрсэдэс" прэзыдэнта каштуе 350 тысяч даляраў. Штодзень на ахову прэзыдэнта, якой ён акружыў сябе, выдаткоўваецца 40 тысяч даляраў. Лукашэнка, які стаў прэзыдэнтам абяцаючы барацьбу з карупцыяй, пераўтварыў дзяржаўную ўстанову ў магутную помпу выцягваньня грошай. А грошы зьнікаюць невядома куды. Асабісты самалёт Лукашэнкі каштаваў бюджэт 45 мільёнаў даляраў. Асабістых самалётаў ня маюць ні прэзыдэнт Жак Шырак, ні канцлер Гельмут Коль, хаця Францыя і Нямеччына вельмі багатыя краіны.*

*Свабода, н-р 42*

Але што Шырак ці Коль ведаюць пра жыццё нармальнага чалавека. Прэзідэнт Беларусі пераважа і як даіць кароў, як „управлять" банкам, як у футбол гуляць, і як „запускать" прамысловасць. Такі талент нараджаецца раз на тысячу гадоў. Трэба затым і адпаведна яго ахоўваць.

* * *

*Gródek ma ujemny przyrost naturalny i starzeje się.*

*Gazeta Współczesna, nr 204*

Актыўнасць жыхароў Гарадка пайшла не ў той бок, што трэба.

* * *

*Liczba zabiegów aborcji dokonywanych corocznie w Rosji dwukrotnie przekracza liczbę narodzin. Na każde sto porodów przypadło w zeszłym roku 217 zabiegów usunięcia ciąży. W Rosji rejestruje się rocznie ponad 3 mln aborcji, a w rekordowym roku 1990 ich liczba przekroczyła 4 mln. Co roku aborcje przeprowadza 3 tys. dziewcząt poniżej 15 lat.*

*Gazeta Wyborcza, nr 248*

* * *

*Co druga wędlina sprzedawana w polskich sklepach jest przeterminowana, albo zawiera zbyt dużo środków konserwujących. Niebezpiecznie jest kupować w poniedziałek tzw. wędliny nietrwałe — pasztetową i salceson. Od dwóch lat w Polsce można stosować polifosforany, które wiążą zbyt dużą ilość wody. Takich wędlin nie powinny jeść kobiety w ciąży i dzieci. W ostatnich latach pojawił się problem użycia preparatów do produkcji wędlin. Dzięki nim można uzyskać, np. ze 100 kg surowca nawet 170 kg szynki.*

*Gazeta Współczesna, nr 207*

Лепш не думаць, што знаходзіцца ў саставе г.зв. „кашанкі". Як гавораць дасведчаныя спажыўцы — есці можна, але раней трэба яе падсмажыць, каб зубамі не нішчыць жывыя арганізмы, якія там часамі кватаруюцца.

* * *

*Падчас футбольнага матча паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Чэхіі аматары футбола згледзілі ў гасцёвай ложы стадыёна прэзідэнта Лукашэнку. Прывіталі яго свістам, дружнымі крыкамі „Жыве Беларусь!" і размахваннем бел-чырвона-белым сцягам.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 41*

Слава аматарам беларускага футбола!

# З мінулага тыдня

**Управа Рады Міністраў** мае намер перасланць беластоцкаму ваяводу прапанову стварыць на месцы медыяцыйную групу па справе **Супрасльскага манастыра**. Пасля другога адміністрацыйнага разбору, які не прынёс канчатковых вырашэнняў, віцэдырэктар Дэпартамента веравызнанняў УРМ Багуслаў Скрэнта сказаў: „Ніхто разумны не мог спадзявацца на канкрэтныя вырашэнні, але найважнейшае, што не былі спынены прымірэнчыя перагаворы. Нам ідзе пра дыялог і развагу па абодвух баках. Пасля свят звярнуся да ваяводы з прапановай стварыць пры яго ўстанове калектыў для перагавораў, які дапаможа нам весці гэтую справу".

**Міністр гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай Яцэк Бухач** наведаў Беласток і сустрэўся з прадпрымальнікамі нашага ваяводства. У ходзе візіту міністр меў нагоду пазнаёміцца з праблемамі гандлюючых з Усходам мясцовых бізнесменаў. Наракалі яны перш за ўсё на немагчымасць сыскання даўгоў з усходніх контрагентаў. Міністр заявіў аб змяненнях у валютным законе, што павінна паспрыяць развіццю экспарту. Знешнеэканамічнае ведамства будзе падтрымоўваць рэгіяльныя ініцыятывы паскарэння развіцця замежнага гандлю. На заканчэнне візіту міністр наведаў Баброўнікі, дзе пазнаёміўся з ходам рамонту маста на Свіслачы і паабяцаў падтрымку з боку свайго ведамства, асабліва цяпер, калі міністэрства прыярытэтна ставіцца да мадэрнізацыі пагранічных пераходаў на ўсходняй мяжы.

**Найбольш гандлёвых партнёраў** беластоцкія фірмы маюць у ЗША, Расеі, Нямеччыне і **Беларусі**. У мінулым годзе фірмы Беластоцкага ваяводства выэкспартавалі ў Беларусь тавараў на 15 млн. доляраў (што складае 15,7% ад агульнай вартасці экспарту). Імпарт з Беларусі за згаданы перыяд склаў 26 млн. дол. (25,8%).

**Галоўная рада вышэйшага школьніцтва** адобрыла прапановы стварыць у Беластоку дзве новыя прыватныя прафесійныя ВНУ. Пасля заканчэння навукі ў гэтых установах абітурыенты атрымаюць званне ліцэнцыята. Неўзабаве можна будзе ў нашым горадзе вучыцца ў **Вышэйшай эканамічнай школе** і ў **Вышэйшай школе гуманітарнай адукацыі**.

**Міністэрства нацыянальнай адукацыі** заявіла аб намеры сарганізаваць у наступным годзе **Адкрыты універсітэт** — тэлевізійныя курсы для некалькіх дзесяткаў тысяч чалавек. Пасля іх заканчэння абітурыенты атрымалі б дыплом магістра. Рэктары Філіяла Варшаўскага універсітэта і Політэхнічнага інстытута ў Беластоку скептычна паставіліся да гэтай задумы і лічаць, што такая сістэма адукацыі не дасць патрэбнай прафесійнай падрыхтоўкі.

**Віцэ-куратар асветы ў Беластоку Зофія Транцыгер** заявіла, што гмінныя самаўрады прымуць з новым годам у свае распараджэнне пачатковыя школы без задоўжанасці. Даўгі (каля 90 млрд. ст. зл.) застануцца на рахунку Кураторыі, якая будзе абавязана пагасіць іх.

**Консул Літвы ў Сейнах** звярнуўся да ўлад з патрабаваннем кругласутачнай аховы будынка консульства, паколькі ўжо не раз невядомыя злачынцы нішчылі дзяржаўны герб, шыльду і нацыянальныя літоўскія сцягі. Міністэрства ўнутраных спраў абяцала „сур'ёзны і пранікліві разбор справы".

**На XIX Краёвым конкурсе сыроў** у горадзе Закапанэ малочныя заводы з Лап, **Гайнаўкі** і Монек былі ўзнагароджаны за якасную прадукцыю. Сыр „гоўда" гайнаўскай вытворчасці атрымаў вылучэнне.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Паўторныя выбары

Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў падвяла папярэднія вынікі кампаніі па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета на паўторныя выбары. На 141 акругу, па якіх дэпутаты новага парламента яшчэ не абраны, вылучаны 881 кандыдат і толькі чынам на адно дэпутацкае месца прэтэндуе прыкладана шэсць кандыдатаў.

## Альтэрнатыўны саюз

У Міністэрстве юстыцыі зарэгістравана яшчэ адна рэспубліканская грамадская арганізацыя — Беларуская асацыяцыя журналістаў. Яе асноўная мэта — рэалізацыя прафесійных правоў і законных інтарэсаў журналістаў. Асацыяцыя аб'ядноўвае пакуль сорак прадстаўнікоў 28 сродкаў масавай інфармацыі. На думку прэзідэнта БАЖ Жанны Літвіной, іх колькасць у бліжэйшы час значна павялічыцца. На пытанне ці будзе асацыяцыя дубліраваць дзейнасць Беларускага саюза журналістаў, Жанна Літвіна адказала адмоўна. На яе думку БСЖ не выконвае і паловы сваіх функцый у дачыненні да праблемаў беларускай журналістыкі, аднак канфрантацыі паміж саюзам і асацыяцыяй не будзе.

## Марудныя рэформы

Беларуская канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў прыняла зварот да прэзідэнта рэспублікі, старшыні парламента і прэм'ер-міністра, у якім выказана занепакоенасць тым, што ў рэспубліцы фактычна тармозяцца рэальныя рэформы, не ствараецца палітыка-праўавая прастора неабходная для прыватызацыі, без чаго немагчыма рэальная стабілізацыя рубля. Савет Канфедэрацыі просіць пры фарміраванні бюджэтна-падатковай сістэмы на 1996 год у максімальнай ступені ўлічыць прапанаваны рабочай групай Беларускага саюза прадпрымальнікаў праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы па пытаннях падаткаабкладання. „Прынцыповае палажэнне гэтага праекта, а менавіта ўзмацненне праўавой абароны падаткаплацельшчыка, дакладнае абмежаванне аб'ёму падатковых і абавязковых фондавых выплат, фарміраванне рэалістычнай базы даходнага падатку, а таксама інтэнсіфікацыя прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, павінны забяспечыць актывізацыю інвестыцыйнай дзейнасці і перааддоленне крызісных з'яў у нашай эканоміцы", — гаворыцца ў звароце.

## Універсітэцкі юбілей

Нядаўна адзначаў свой юбілей Брэсцкі дзяржаўны універсітэт. За 50 гадоў тут падрыхтавана каля 40 000 настаўнікаў. Зараз ва універсітэце дзесяць факультэтаў. Стацыянарна і завочна вучацца каля 6 000 студэнтаў. Выкладчыкі універсітэта і лепшыя студэнты вядуць фундаментальныя даследаванні па многіх напрамках. Вялікая група вучоных установы і лепшыя студэнты ўзнагароджаны граматамі Абласнога выканаўчага камітэта.

## Грамадскі прадукт

Паводле даных Усходняга інстытута ў Польшчы, сярод дванаццаці краін цэнтральнай і ўсходняй Еўропы найбольшыя тэмпы падзення сукупнага грамадскага прадукту назіраецца ў Беларусі — 27%, на Украіне — 24%, Расеі — 15%. Дарэчы, у астатніх краінах назіраецца рост. Найбольш хуткі яго тэмп у Латвіі і Польшчы — +5%, Румыніі, Славакіі, Венгрыі, Чэхіі, Літве і Эстоніі — да 3% у год.

## Пакараць Пазьняка

На імя прэзідэнта Беларусі і генеральнага пракурора прыйшоў зварот ад членаў сходу Гродзенскага клуба ветэранаў усіх войнаў і партызанцкага руху, у якім 750 удзельнікаў сходу лічаць неабходным забарону БНФ і прыцягненне да крымінальнай адказнасці Зянона Пазьняка. Падставай паслужыла выступленне лідэра БНФ 3 верасня ў Драматычным тэатры горада Гродна, у якім Пазьняк заклікаў прысутных да аб'яднання сіл і насільнага звяржэння існуючага ў рэспубліцы дзяржаўнага ладу.

## Кватэрныя неплацяжы

Сённяя кожны трэці жыхар Брэста не плаціць за кватэру. Доўг гараджан для жыллёвай службы складае больш як паўтара мільярда рублёў. Па некаторых ЖЭСах неплацяжы падбіраюцца да паловы запланаваных штомесячных паступленняў. Усё гэта ў сваю чаргу ўскладняе і без таго цяжкую сітуацыю камунальнікаў з разлікамі за цяпло і электраэнергію. Іх запазычанасці цяпер роўныя 15 млрд. рублёў.

## Выбух на заводзе

Чатыры чалавекі сталі ахвярамі выбуху ў цэху перапрацоўкі пораху на беларуска-амерыканска-англійскім прадпрыемстве „Белканверс" у Добрушы Гомельскай вобласці. „Белканверс" быў створаны спецыяльна ў рамках праграмы па скарачэнні ўзбраенняў у Еўропе і спецыялізаваўся на абясшкоджванні артылерыйскіх снарадаў шляхам іх дэмантажу. Прычыны ўзгарання пакуль не ўстаноўлены. Вядома, што ў гэты трагічны дзень у цэх было завезена 250 кг пораху. Расследаванне вядзецца.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Як у Бельску выбіралі прэзідэнта Рэчы Паспалітай — расказвае член выбарчай камісіі Мікола Ваўранюк.
- Малітва за памардаваных вазакоў у Пухалах-Старых — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- Як паратаваць здароўе з дапамогай прыроды — раіць доктар Яўген Шмярко.

# Бардаўская восень'95

*Працяг са стар. 1*

Старшыня Беларускага саюза **Яўген Вапа** ўручыў узнагароду таксама свайму вучню — **Марыюшу Ажахоўскаму.**

Марыюш, што праўда, забыўся слоў песні, але гэта было ўжо падчас канцэрта лаўрэатаў, на ўзнагароду не паўплывала, а вялікае хваляванне выклікала толькі сімпатыю гледачоў.

**Узнагароду Гран-пры бурмістра Бельска атрымаў Алесь Камоцкі**, „жывая гісторыя беларускай бардаўскай песні", як рэкамендавала яго канферансье. Алесю ўрэшце выйшаў у нас добры канцэрт і ўпершыню быў ён тут узнагароджаны. Яго лірычныя песні не падыходзяць для стадыёнаў ці вялікіх залаў, трэба іх слухаць у цішыні і найлепш пры патушаным святле. Тады толькі поўнасцю адчуваеш іхнюю прыгажосць, вытанчанасць. Я з сапраўднай асалодай слухаў восеньскія і дажджлівыя цыклы, і зімовы „Рамакс" на словы Ларысы Геніюш, і самую першую песню Алеся „Дробны след маёй сяброўкі" на словы Сяргея Дубаўца, і найнавейшыя „Зуброўка" і „Ой, ляцелі гусі" на словы Міхася Шэлехава, ды аўтарскую пра самотнасць чалавека, які „трохі шчаслівы".

У суботу Алесь Камоцкі выступаў як апошні. Перад ім „Кардон" да таго распаліў публіку, што іскра правакацыі нейкага жуліка не магла згаснуць сама сабой. Гасілі яе мардабоем. Найбольш гарачыя галовы пакінулі залу і для мастацтва Алеся была самая добрая атмасфера.

Ніяк не можа знайсці зразумення на Беласточчыне **Марыся Аліфер**, студэнтка рэжысуры ва Універсітэце культуры ў Менску. У Беларусі палоніць яна публіку, охаюць над ёю і ахаюць, а ў нас яе неяк абыходзяць бокам. Не дабілася яна поспеху ні на бэгэкатоўскім „Фестывалі беларускай песні", ні на „Бардаўскай восені", хаця мае моцны і добра пастаўлены голас, някепска грае на гітары і падбірае сабе інтэлігентныя тэксты. Ці не вінавата тут яе творчая манера, — крыху старасвецкая, крыху савецкая — якою нервуе яна ўсіх вакол сябе. Выступленне ў Бельскім доме культуры напэўна не можа лічыць яна сваім поспехам.

Без узнагароды застаўся таксама мянчук **Сяржук Мінскевіч**, адзін з заснавальнікаў літаратурнай суполькі „Бум-бам-літ", якая нядаўна публікавала свой творчы маніфест у „Культуры". Як і выпадала б маладому аўтару суполкі, якая сваёй мэтай лічыць правакацыю, Сяржук правакаваў, палохаў і дзіваваў акцёрскімі песнямі (дарэчы, ён яшчэ і акцёр), з якіх найбольш запамяталіся „Начныя жахі".

* * *

„Бардаўская восень" гэта не толькі песня. Гэта таксама, у пэўным сэнсе, дэманстрацыя акрэсленага асяроддзя, яго музычных і эстэтычных густаў. Калі пра эстэтыку, дык важную ролю ў гэтым фестывалі адыгрывае мастацкае афармленне сцэны, плакаты. На жаль, сёлета канцэпцыя плакатаў не была да канца перадуманай. Прыгожыя і цікавыя зблізу, поўнасцю губляліся ў горадзе. Белая папера выглядала як нейкая афіцыйная інфармацыя бурмістра пра прызыў у армію чарговага кантынгенту маладых хлапцоў.

Безумоўна аднак, **„Бардаўская восень" гэта мерапрыемства, якое арганізуе моладзь для сябе самой і слухае такія песні, якія слухаць хоча, а не такія, што прапаноўваюць ёй нейкія дзядзькі — спецы па культуры.** Мне здаецца яшчэ і тое, што на гэтай імпрэзе беларускасць успрымаецца як цэласць, як нешта адзінае, чаго не дзеляць дзяржаўныя межы.

**Мікола Ваўранюк**

# Гмінная статыстыка

Чаромхаўская гміна займае плошчу ў 9 673 гектары. У гміне дванаццаць салэцтваў. У канцы 1994 г. насельніцтва гміны складала больш за чатыры тысячы чалавек. У структуры насельніцтва захоўваецца раўнавага: на 100 жанчын прыпадае 100 мужчын. Аднак натуральны прырост у гміне — адмоўны.

Угоддзяў у гміне 4 653 га, у тым ліку ворная зямля складае 3 038 га, сенажаці — 1 002 га, паша — 600 га, сады — 13 га і лясы — 4 108 га. Гэтыя апошнія займаюць амаль палову тэрыторыі гміны.

* * *

Прыгажэюць вёскі Чаромхаўскай гміны. У самім пасёлку будуюцца новыя мураваныя дамы, павялічваецца колькасць крамаў (прыватных, разумеецца). На вуліцах пракладваюць асфальтавае палатно. У мінулым годзе такія дарогі зрабілі ў Кузаве і Ставішчах, але ў гэтай апошняй вёсцы не хапіла грошай пакрыць асфальтам усю вуліцу. Раней выасфальтавалі дарогу ў вёсцы Чаромха, а ў гэтым годзе — у Вульцы-Тэрахоўскай. Неўзабаве ў Чаромсе будзе перабудавана вуліца Кузаўская ў напрамку чыгуначнай станцыі.

Відаць, гмінныя чыноўнікі ўзялі да сэрца народную прымаўку, што выгляд пасёлка сведчыць аб яго гаспадарах.

**(ус)**

# Шторaз бліжэй канца трубы

Усё больш маем прыкладаў на тое, што самаўрады клапоцяцца пра пабудову ачышчальняў сцёкаў. Ужо працуюць поўным ходам ачышчальні ў Міхалове і Ласінцы (Нарваўская гміна). Будуюць іх у Гайнаўцы, Белавежы, Кляшчэлях і Нараўцы.

Пабудова ачышчальні ў Белавежы набліжаецца да канца. Да яе падключылі між іншым Лясны тэхнікум і Пачатковую школу ды гастранамічныя прадпрыемствы і гасцініцы, якія дзейнічаюць у Палацовым парку.

У Гайнаўцы пабудову ачышчальні сцёкаў пачалі ў чэрвені мінулага года. Прадбачваецца, што ў карыстанне аддадуць яе ў 1997 годзе. На гэтага роду інвестыцыю трэба многа грошай. Самаўрадавыя ўлады Гайнаўкі для гэтай мэты атрымалі між іншым 800 тысяч новых злотаў з Фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва.

Да канца снежня бягучага года закончаць будаўніча-мантажныя работы пры пабудове ачышчальні сцёкаў у Кляшчэлях. Адначасова ідзе пракладка калектара па вуліцах Свярчэўскага і Каперніка да новай школы (у пабудове) у цэнтры мястэчка. Тэхналагічны пуск ачышчальні адбудзецца ў красавіку 1996 года.

**(яц)**

# РАМАНТЫКА БЕЛАВЕЖЫ

Белавежа, Белавежская пушча — гэта тэмы, якія вельмі часта інспіруюць, прыцягваюць фатографаў, так аматараў, як і прафесіяналаў — вядома, кожны з іх бачыць тут што іншае, ды на свой спосаб.

Крыст'ян Аўчарчак з Варшавы — стаматолаг са званнем доктара медыцынскіх навук і... заўзяты фатограф. З фотаапаратам „сябруе" ўжо дваццаць гадоў. Яго таксама захапіле Белавежа. Ён сюды прыязджаў неаднойчы і за кожным разам вяртаўся дамоў з плёнкай белавежскіх вобразаў. Мабыць, белавежцы ніколі іх і не паглядзелі б, каб не Тамара і Сяргей Тарасевічы, сябры К. Аўчарчака, якія ў кастрычніку г.г. наладзілі ў сваёй галерэі выстаўку з шаснаццаці здымкаў варшаўскага фатографа.



Трэба сказаць, што хаця д-р К. Аўчарчак выконвае зусім пазбаўленую рамантыкі прафесію, то ў фатаграфіі ён стапрацэнтны рамантык. Белавежу, авеяную імглой таямнічасці, неспадзяванасці, чароўнасці, ён успрымаў вельмі цёпла, сардэчна. Хіба кожнага гледача кінуць на калені ягоныя здымкі з ветраком у скансэне ў вячорнай імгле. Ад іх проста вачэй адарваць нельга. Таксама неверагодна захапляюча выглядае праваслаўны крыж у тым жа скансэне ў промнях заходзячага сонца. Зачароўваюць наведвальніка выстаўкі і белавежскія прываблівыя пейзажы, асабліва той з адзінокім дрэвам — сумным у сваім адзіноцтве, але заадно і магутным у сваёй прыгажосці. Вока прыцягваюць і лясныя краявіды, на якіх пушча проста дыхае. Ёсць таксама на выстаўцы здымак пускання вянкоў на рэчцы Нараўцы ў час белавежскага Купалля.

Фотавыстаўку вельмі ахвотна наведваюць удзельнікі шматлікіх экскурсій. Яны кажуць, што здымкі папаўняюць вобраз Белавежы, які яны адсюль вывозяць, а якога не пабачылі б і пра які зусім не здагадаліся б, каб не К. Аўчарчак менавіта.

Фотавыстаўку можна будзе паглядзець і ў будучым турыстычным сезоне. Спадарства Тарасевічы нават думаюць яе пашырыць.

**Пётр Байко**
**Фота Крыст'яна Аўчарчака**

# Правілы
## I Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз у Рэспубліцы Польшча пры садзейнічанні Праўлення аддзела Саюза польскіх літаратараў, Праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ды пад патранажам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку аб'яўляюць I Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Мэты конкурсу**

— разбуджванне актыўнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы на ніве прыгожага пісьменства,

— знаходжанне і папулярызацыя новых творцаў і цікавых твораў з улікам наватарскіх мастацкіх пошукаў.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь падставовых школ,

— II група: моладзь сярэдніх школ,

— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборлівы рукапіс у трох экзэмплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 1 аўтарскага аркуша г.зн. да 22 старонак стандартнага машынапісу), памечаныя крыптанімам і нумарам узроставай групы трэба дасылаць на адрас:

Redakcja „Niwy"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok

з прыпіскай на канверце: I Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным канверце, памечаным такім жа крыптанімам і нумарам узроставай групы, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 15 сакавіка 1996 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 15 красавіка 1996 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Ўзнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі ўзнагароды вартасцю ў 2 000 злотаў. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Аб падзеле і вартасці ўзнагарод рашае прызначанае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія ўзнікнуць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok
tel. 42-10-33

Там можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

Арганізатары

# КУРС ЭКАНОМІІ

Кожны, хто да 1989 г. меў гонар быць студэнтам, абавязкова вымушаны быў прайсці курс эканоміі сацыялізму і капіталізму. На першых занятках кандыдат на сацыялістычнага інтэлігента мог даведацца што „zadaniem ekonomii jest formułowanie teorii ekonomicznych, tj. uproszczonych abstrakcyjnych modeli funkcjonowania obiektywnej rzeczywistości, ujętych w system pojęć i twierdzeń teoretycznych. Teorie ekonomiczne wykrywające treść procesów ekonomicznych pozwalają, w określonych warunkach, przy określonym stopniu poznania naukowego, na świadome kierowanie procesami gospodarowania (*Ekonomia polityczna*, pod red. Stanisława Szefflera, Warszawa, 1976, s. 16). Кожны студэнт чытаў такія фразы і пытаўся ў калегаў, ці здагадваюцца яны, пра што ідзе гаворка. Настаўніка не было сэнсу пытаць, бо ён гаварыў больш-менш тое самае, што было напісана ў падручніку. Пасля семестра навукі кожны ведаў, што каб здаць экзамен, трэба ўбіць сабе ў галаву і памятаць (прынамсі на некалькі дзён), што ў капіталізме праца чалавека, гэта толькі тавар, а ў сацыялізме — сродак для рэалізацыі найвышэйшых чалавечых ідэалаў. Прадукцыя ў капіталістычнай сістэме гэта самыя супярэчнасці, якіх крыніцай з'яўляецца прыватная ўласнасць. Паслядоўнасць такога стану гэта эксплуатацыя „рабочага класа". Развіццё „вытворчых сіл" і ўсведамленне „працоўнымі масамі" механізму эксплуатацыі — паводле сацыялістычных вучоных — мела прывесці да рэвалюцыі і ў канцы канцоў устанаўлення сацыялістычнага парадку ў цэлым свеце.

Другі семестр найчасцей прысвечаны быў эканоміі сацыялізму. Тут усё было на шляху да светлай будучыні. Перш за ўсё „права абавязковай згоднасці эканамічных адносін з характарам і ўзроўнем развіцця вытворчых сіл" вяло чалавецтва да агульнаграмадскай уласнасці сродкаў прадукцыі. „Koniecznym warunkiem powstania możliwości tworzenia się socjalistycznych form własności i właściwych im metod gospodarowania jest zatem ustanowienie władzy politycznej proletariatu. Przejęcie władzy politycznej przez klasę robotniczą stanowi równocześnie początek epoki budownictwa socjalistycznego i sprawiedliwego ładu społecznego" (*Ekonomia polityczna*, s. 329). Гарантыяй развіцця прагрэсіўных эканамічных, грамадскіх і палітычных працэсаў у сацыялізме была планавая гаспадарка і справядлівы падзел „даданай вартасці" — прыбытку. Пры дапамозе ўзораў, сімвалаў, дыяграм вучоныя магістры і прафесары даказвалі маладым людзям, што пашанцавала ім у жыцці — маюць усё, за што іх равеснікі плебэйскага паходжання на г.зв. Захадзе мусяць змагацца. У нас усё было цудоўна. Закончыўшы навуку мы маглі сваёй працай служыць самай справядлівай уладзе — уладзе пралетарыяту — у пабудове яшчэ больш дасканалага грамадскапалітычнага парадку.

На гістарычным факультэце толькі невялікая частка з абурэннем і нейкай нянавісцю ўспрымала такі змест дакладаў. Большасць глядзела на універсітэцкіх настаўнікаў са спачуваннем. І так у сапраўднасці невядома было, ці яны самі верылі ў тое, аб чым гаварылі. Рабілі прынамсі ўражанне, што глыбока былі перакананыя ў праўдзівасці сваіх слоў. Страшэнна мучыліся, калі нейкі студэнт-садыст ім паставіў пытанне: супраць каму пратэставаў пралетарыят Польшчы ў 1976 годзе, калі яго авангард, найлепшы з найлепшых, быў пры ўладзе.

Але студэнтам жылося тады зусім нядрэнна: нават калі хтосьці не меў граша пры душы, меў дзе спаць і што есці. Сацыялістычная эканоміка мела таксама свае станоўчыя бакі і не адно глупства, сказанае падчас дакладаў, лічылася элементам нейкай шырэйшай цэласці, дзе апрача канкрэтнай рэчаіснасці, якую кожны бачыў сваімі вачыма, існуе нейкі ілюзорны свет пажаданняў. Кожны затым разумеў, што жывем у нейкім пераходным перыядзе, а той рай, які апісваўся ў падручніках, усё яшчэ наперадзе.

Хапала аднак пагаварыць з абы-якім прадстаўніком пануючага класа, каб пераканацца, што яго галоўнай праблемай з'яўлялася не заклапочанасць здзяйсненнем вялікіх планаў Партыі, а толькі дзе, каму прадаць пацыху прыватызаваную агульнаграмадскую маёмасць. Асабліва ў другой палове сямідзесятых гадоў з боку ўлад як бы вялася палітыка па прынцыпу „крадзі і дазволь красці іншым". Здаралася, што нейкая пабудова патрабавала два разы больш цэменту, чым запраектавалі інжынеры. На дармовую, сацыялістычную кватэру трэба было чакаць 12—15 гадоў. Лягчэй было тым, хто меў нейкага кума ва ўправе каапэратыва ці падтрымку з боку „вядучай сілы". Дзе б чалавек не накіраваў сваю ўвагу, зараз бачыў нейкія парадоксы, якія яму не перашкаджалі, але супярэчнасць паміж тым, што было і тым, як яно прадстаўлялася ў афіцыйнай прапагандзе, былі надта вялікія.

Тыя, якія пабывалі на „згнілым Захадзе", марылі толькі, каб яшчэ раз паехаць туды і стаць прынамсі „эксплуатаваным класам". Зняволеныя капіталістычнымі драконамі амерыканскія ці нямецкія рабочыя атрымлівалі за гадзіну свае працы столькі, колькі польскія за тыдзень. Балбатня пра справядлівасць сацыялізму і перспектыўнасць калектыўнай уласнасці рабілася проста невыносная.

У Польшчы камунізм пачаў развальвацца тады, калі геркаўскія „ліберáлы" дазволілі некаторым грамадзянам паехаць і пабачыць як прыгожа „гніе" Захад. Нават найбольш дасканалая хлусня пра „эксплуатацыю рабочага класа" і „вышэйшую якасць планавай гаспадаркі" нікога не пераконвала. Трэба было пачакаць на непасрэдную канфрантацыю сацыялістычнага чалавека з капіталістычным парадкам, каб мог ён лепей акрэсліць, што яму больш даспадобы. Пра свае сімпатыі грамадзянін Польшчы мог ужо не раз выказаць падчас выбараў. Аказалася, што тая эканомія, з якой смяяліся студэнты ў сямідзесятых гадах, мае шматмільённую масу сваіх прыхільнікаў. Эсэльдоўцы, салідарнікі, опэзэтзэтаўцы, пээсэлеўцы, пенсіянеры і клерыкалы ў такой ці іншай форме крычаць: „Вярніце нам сацыялізм!" І хто б падумаў, што столькі сірот засталося пасля „zachwiania zgodności stosunków produkcji i rozwoju sił wytwórczych".

**Яўген Мірановіч**

# Беларусы ў II Рэчы Паспалітай

У суботу 28 кастрычніка ў сядзібе Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку адбылася навуковая канферэнцыя „Беларусы ў II Рэчы Паспалітай".

Канферэнцыя, якую наладзіла Беларускае гістарычнае таварыства, мела рабочы характар. Сціплую колькасць дакладаў раўнаважылі доўгія дыскусіі, якія вяліся пасля кожнага з іх.

Асноўны даклад п.з. „Палітыка польскіх урадаў адносна беларускай меншасці ў Польшчы ў гадах 1918—1939" прадставіла доктар Крыстына Гамулка з Гданьскага Політэхнічнага інстытута. На яе погляд, усе польскія ўрады праводзілі ў адносінах да беларусаў падобную палітыку (за выключэннем Яна Падарэўскага, якога ўсё-такі ніхто з польскіх палітыкаў не хацеў слухаць). Хаця канцэпцыі гэтай палітыкі мяняліся, ад асіміляцыі дзяржаўнай да асіміляцыі нацыянальнай, з пункту гледжання беларусаў вынікі былі падобныя. Рэзультатам гэтай палітыкі была амаль поўная ліквідацыя беларускага нацыянальнага руху напярэдадні II сусветнай вайны.

Яўген Мірановіч у дакладзе п.з. „Беларуская прэса пад вокам расейскай і польскай цэнзуры" параўнаў сітуацыі гэтай прэсы ў расейскай і польскай дзяржавах.

Галена Глагоўская ў дакладзе „Беларускі пасол Сяргей Баранаў" паказала лёс гэтага цвёрдага беларуса, які не хацеў ісці на павадку ні польскіх, ні савецкіх палітычных сілаў. У выніку, пасля таго, як выйшаў з польскай турмы, замардаваны быў у турме савецкай.

Алег Латышонак у дакладзе п.з. „Ліквідацыя беларускіх вайсковых фарміраванняў у Польшчы ў 1921 г." прадставіў трагічны лёс беларускіх жаўнераў, якія ў саюзе з Польшчай змагаліся супраць Савецкай Расеі, каб пасля рыжскага дагавору апынуцца ў польскіх лагерах і турмах.

Вячаслаў Харужы ў дакладзе „Дзейнасць беларускіх цэнтрысцкіх арганізацый на Беласточчыне ў гадах 1925—1929" прадставіў спробы г.зв. арганічнай працы з боку Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага сялянскага саюза і Інстытута беларускай гаспадаркі і культуры. Спробы былі наогул няўдалыя, паколькі з аднаго боку людзей цягнулі за сабою левыя партыі, якія абяцалі хуткія перамены, з а другога боку супрацьдзейнічала польская адміністрацыя.

Славамір Іванюк прадставіў вузкаспецыялістычнае даследаванне п.з. „Урадавая парцэляцыя пацаркоўнага маёнтка ў Шчытах-Дзяцелках у гадах 1938—1939".

Усё ж такі аўтар здолеў надаць сваёй працы шырэйшае вымярэнне, паказваючы на канкрэтным прыкладзе, як у выніку палітыкі адміністрацыі маёмасць праваслаўнай царквы перайшла ў рукі палякаў-католікаў.

З зачытанымі на канферэнцыі дакладамі можна будзе пазнаёміцца ў чацвёртым нумары „Беларускіх гістарычных сшыткаў". Наканец адзначым, што правядзенне канферэнцыі было магчымае, дзякуючы фінансавай дапамозе Управы горада Беластока.

**Алег Латышонак**

# МІНІСТР У РЭДАКЦЫІ

Падчас пабыўкі на Беласточчыне дэлегацыі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, шаноўныя госці наведалі таксама нашу рэдакцыю. Кожная сустрэча з высокімі ўраднікамі беларускай дзяржавы стварае знакамітую нагоду для абмену думкамі наконт асноўных праблем сучаснага жыцця нашага народа.

Наколькі мае меркаванні і ацэнкі таго, што цяпер адбываецца ў Беларусі, і маіх дастойных гасцей трошку разыходзіліся, таму і дыскусія была даволі жывая. Але гутарка ішла паміж людзьмі, якія маюць пачуццё гумару і шануюць іншыя погляды, тады пасля сустрэчы асталіся прыемныя ўражанні, хаця ніхто і нікога не пераканаў да сваіх рацый.

Намеснік міністра адукацыі і навукі Анатоль Гарнак першы раз наведаў нашу рэдакцыю і цікавіўся ўсялякімі праблемамі беларускага руху ў Польшчы. Адказваў я тады на шмат пытанняў, якія краналі не толькі справы нашага тыднёвіка. Міністр вельмі слушна заўважыў, што тыраж „Нівы", які складае ўсяго некалькі тысяч паасобнікаў, гэта не надта імпазантны вынік нашай дзейнасці сярод звыш двухсоттысячнай беларускай меншасці ў Польшчы. Прабаваў я пясняць, што не ўсе нашы суродзічы, якія жывуць у III Рэчы Паспалітай, валодаюць роднай літаратурнай мовай, але спадар міністр Гарнак заўважыў, што маглі б мы друкаваць наш тыднёвік на польскай і беларускай мовах, або толькі на польскай, якую ўсе тут добра ведаюць, тады і тыраж мог бы быць у некалькі разоў большы. Думаю, што гэта быў толькі жарт спадара міністра.

Мяне, аднак, найбольш цікавіла сітуацыя беларускамоўнага школьніцтва ў Беларусі. Пасля прачытання артыкулаў у такіх часопісах як „Наша слова", „Літаратура і мастацтва", „Свабода", „Культура", „Звязда" ў мяне чамусьці склалася ўражанне, што школьніцтва на роднай мове даживае на Бацькаўшчыне апошніх сваіх дзён. З вялікім зацікаўленнем тады чакаў я адказу міністра, як асобы найбольш кампетэнтнай у гэтай галіне. Паводле слоў Анатоля Гарнака працэс адраджэння роднай мовы працягваецца, пашыраецца з году ў год колькасць школ, у якіх вывучаецца першая дзяржаўная мова — беларуская. Прыемна было пачуць такія весткі. І паспрабуй тут паверыць журналістам!

**Яўген Мірановіч**

# Доктар Лена

У сераду 25 кастрычніка 1995 г. у Аддзяленні журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага універсітэта адбылася абарона кандыдацкай дысертацыі Галены Глагоўскай п.з. „Культурныя перамены на Беларусі ў першай палове XX стагоддзя".

Аўтарка дысертацыі, навуковы супрацоўнік Гданьскага універсітэта (родам з Ярылаўкі, што ў Гарадоцкай гміне), прадставіла працу, абапертую на шматгадовых пошукі ў архівах Мінска і Вільні. Дзякуючы гэтаму, змагла яна зусім па-новаму асвятліць праблему культурных перамен на Беларусі ў перыяд, які можна лічыць самым важным для станаўлення беларускай нацыі і яе культуры. Перш за ўсё адносіцца гэта да праблемы г.зв. „беларусізацыі". Г. Глагоўская паказала, што „беларусізацыя" была не столькі праявай палітыкі савецкіх уладаў, колькі вынікам вялікіх намаганняў беларускага палітычнага і творчага асяроддзя.

Г. Глагоўская бліскуча абараніла тэзісы сваёй дысертацыі, у сувязі з чым высокая камісія, перад якой адбывалася абарона, палічыла, што заслугоўвае яна адзнакі.

Вітаем спадарыню Галену з гэтым поспехам, жадаем новых дасягненняў на навуковай ніве ды чакаем чарговых допісаў у нашу „Ніву".

**Алег Латышонак**

## На жыццёвых хвалях

*Віктар Ярмалковіч*

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

**На жыццёвых хвалях**

З пачаткам кастрычніка пачаў неяк працаваць універсітэт. Трэба было канчаць вучобу. Пасля Картуз-Бярозы нялёгка было ўзяцца за навуку. Мне, як будучаму юрысту, трэба было вывучаць законы і здаваць экзамены, ведаючы, што яны мне ў жыцці ўжо ніколі не прыдадуцца. Такое палажэнне разумелі многія прафесары і дапамагалі студэнтам. Былі аднак і такія, якія паводзілі сябе так, быццам бы нічога не змянілася. А ў той час не было ўжо чаго есці. За хлебам выстройваліся даўжэзныя чэргі і не заўсёды можна было яго дастаць. У горадзе царстваваў непакой, многія знаёмыя дзесьці знікалі.

У снежні 1939 г. Савецкі Саюз перадаў Вільню Літве. Адразу сталі ўсюды ўводзіць літоўскую мову, хаця тут мала хто яе ведаў. Універсітэт узялі ў свае рукі прыбылыя з Коўна літоўцы. Усе старыя працаўнікі адышлі. Новае універсітэцкае кіраўніцтва не залічыла нават паловы здадзеных экзаменаў. Трэба было пісаць афіцыйныя прашэнні, таргавацца, а тут яшчэ дайшлі складанасці з мовай.

У сакавіку 1940 года па пратэкцыі ў бурмістра горада Сташыса, былога старшыні Літоўскага нацыянальнага камітэта ў Вільні, дастаў я работу. Даручана мне ў гарадской управе сартаваць і лічыць старыя паперы яшчэ з царскіх часоў. Мая вышэйшая адукацыя была тут зусім непатрэбная. Дастаткова было ўмець трохі чытаць і лічыць, каб выконваць такую работу. Плацілі мне з фонду для беспрацоўных. Адзін з маіх калегаў, з дыпломам магістра права і грамадскіх навук, пайшоў працаваць прыбіральшчыкам у школу. Мясцовая беларуская інтэлігенцыя ў далейшым заставалася беспрацоўнай. На змену палякам, якія раней займалі тут працоўныя месцы, прыехалі цяпер людзі з ковенскай Літвы. Справа беларуска-літоўскай дружбы, аб якой раней столькі гаварылася, цяпер заціхла. Да гэтага часу беларускі, літоўскі і украінскі студэнцкія саюзы супрацоўнічалі між сабою, цяпер літоўскі саюз аддзяліўся.

У канцы чэрвеня савецкія танкі пакаціліся праз Вільню. Літва станавілася Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай.

* * *

Восенню запрапанавалі мне працу народнага следчага суддзі. Што было рабіць — трэба было браць. Работа па сваёй прафесіі, даволі цікавая, хаця нялёгкая.

Адной з першых спраў, якую даручылі мне весці, была сялянская бойка ў адной вёсцы з-пад Яшун. Прычынай сутычкі, як гэта часта на вёсцы здараецца, быў сабака, які пакусаў суседаву свінню. За гэта суседзі пабіліся і то моцна. Трэба было зрабіць медыцынскі судовы агляд. Справа зацягнулася, раны пагаіліся: па больших асталіся толькі сляды, а па меншых нават і знаку не было. Агляд рабіў прафесар судовай медыцыны польскага яшчэ універсітэта, у якім і я вучыўся, доктар Сігналевіч. Я спісаў пратакол. Справа была сур'ёзная — пашкоджанне чэрапа. Пасля вызвалі жонку, у якой застаўся невялікі след ад раны на галаве. Калі кончылі спісваць пратакол, жанчына прыпомніла яшчэ аб адным пашкоджанні. „А мой панок, — звярнулася яна да прафесара, — ён мяне яшчэ так моцна ўдарыў у гэта месца ботам", і рукой паказала на заднюю частку сваёй фігуры ды стала падымаць спадніцу. Прафесар, намагаючыся стрымаць сур'ёзны выгляд, супакойваў жанчыну і гаварыў: „Добра, добра, мы гэта ўсё запішам", а яна далей настойвала паказаць пакалечанні і падымала спадніцу. Прафесар быў стары чалавек і неяк стрымваў павагу, горш было са мной.

У сакавіку 1941 г. насуперак маёй волі Рэспубліканская Пракуратура перавяла мяне з павета ў горад. Не ведаю, палічылі гэта мае начальнікі павышэннем ці паніжэннем па службе, але, прыйшоўшы на новае месца, сеў я на крэсла і слёзы затуманілі мне вочы. Так мне не хацелася гэтага месца, але што мог я ў тым часе зрабіць?

Раней займаўся я справамі вёскі, цяпер трэба было разбірацца ў гарадскіх здарэннях. А былі яны розныя. Помню вось справу аб уцёках з арышту.

Аднойчы міліцыя затрымала аднаго мужчыну за п'янства і закрыла яго ў арышце. Той уцёк з арышту. Але міліцыі ўдалося знайсці ўцекача і цяпер пасадзілі яго акуратна. Расследаванне гэтай справы выпала на маю долю. Паехаў я ў турму, вызваў арыштаванага. „Што вы нарабілі, — звярнуўся я да яго. — Вас патрымалі б трохі і на другі ці трэці дзень выпусцілі б. А цяпер заводзіцца на вас не абы-якая справа". „Так, — згадзіўся арыштаваны, які, відаць, сядзеў не першы раз, — але ў акне зглядзелі мы падпілаваную крату, адхілілі яе, зрабілася дзіра і я палез. Каб не было дзіры, не ўцякаў бы".

Альбо іншая справа з міліцыяй. Дзесьці зімою па Кіеўскай вуліцы ішоў п'яны жыдок і буяніў. Яго спыніў міліцыянер, таксама жыдок. Той п'яны, пазнаўшы свайго, не толькі што яго не паслухаў, але яшчэ аблаяў, назваўшы „пархатым жыдам" і ўдарыў у твар. Міліцыянер усё-такі затрымаў п'янага. Справа дайшла да пракурора, а той расследаванне даручыў мне. Вызваў я пацярпеўшага міліцыянера і папрасіў яго расказаць аб здарыўшымся. Абодва жыдкі, відаць, дайшлі да згоды, бо міліцыянер адказваў неахвотна і не памятаў што, калі і як здарылася. Гэта вывела мяне з цярплівасці і кажу: „Слухай, ён жа даў табе па мордзе і ты не помніш?" А ён адказвае мне на гэта: „А што, таварыш следавацель, або то было першы раз".

З такімі і падобнымі справамі не было бяды. Горш было з хабарніцтвам. Трапіла мне на расследаванне справа з віленскай біржы працы. Ані той, што быццам даваў, ані той, хто нібыта браў, не прызнаваліся. Сведкаў, як звычайна ў такіх выпадках, не было. Міліцыя завяла справу, абвінаваціла, пракурор цешыўся з іх работы, кагосьці нават пасадзіў, а я нічога суцяшальнага для сябе не бачыў, бо не знаходзіў доказаў віны.

Да маіх спраў дайшлі яшчэ нястачы ў крамах. Перападліковая камісія выявіла ў некаторых крамах недастачы і перадала справу пракурору. У кожнай краме працавала па некалькі чалавек і хто быў вінаваты ў нястачы і ці ўвогуле нехта быў тут вінаваты разабрацца было цяжка. А на расследаванне давалі нешта каля чатырнаццаці спраў у месяц і з работы трэба было вылічыцца.

Да згаданых цяжкасцей дайшла яшчэ адна непрыемнасць: стаў да мяне прыдзірацца начальнік аддзялення кадраў. Не падабалася начальнікам аднаго органа мая маральная пастава. Лаялі мяне за „гнілую, буржуазную мараль", ад якой я не згаджаўся адступіць. Лічыў я, што маральныя асновы аднолькава абавязваюць усіх.

Не ведаю я, чым закончыцца гэты разлад паміж мною і начальствам, але нічога добрага для сябе ў тым часе я не спадзяваўся.

Новыя сусветныя падзеі вырвалі мяне з ранейшага становішча і кінулі на новыя жыццёвыя хвалі.

*(працяг будзе)*

## З дзённікаў С. Яновіча

**1993 - 02 - 27**

Заўтра канчаецца люты. Буду весці справаздачна-выбарчы сход *Белавежы*. Сёння ўжо нічога не раблю, каб мець сілы. Апошнімі тыднямі было работы! Што ні дзень — к. пятнаццаці машынапісных стар., сваіх і перакладных. Кніжку Карпюка *Вершалінскі рай* часта не столькі перакладаю, колькі менавіта пішу як быццам за яго і аднова. Польскі чытач проста не стрываў бы такое колькасці наіўных у яго опусаў! (...)

**1993 - 02 - 28**

З'езд *Белавежы* (буд. — Лінярскага, 4). Чатырнаццаць удзельнікаў. Усё добра адбылося. Вёў яго я; аднак і гэткая непрацаёмкая імпрэзка паказала, што сілаў у мяне менш, чым павінна яшчэ быць у мае пяцьдзесят сем. Прыйшоў дахаты змораны. А жа ж не было (на ім) нейкіх скандалаў, акрамя дробязнай перамоўкі паміж Чыквіным і Шведам (нават не памятаю, за што).

У кулуарах: бэгэкатоўцы мыюць Яновіча, лічачы, што без яго падказак маладыя не дадумаліся б так лоўка разыгрываць канфлікт... Не разумеюць, што геніем тут час!

**1993 - 03 - 09**

Другога — у Міністэрстве культуры і мастацтваў, з Генікам Мірановічам і іншымі. Наконт датацыяў на г.г. беларускім арганізацыям. Наогул усе атрымалі, колькі трэба: *Ніва*, БАС, *Белавежа, Czasopis*. Прыкры інцыдэнт са Зьвязам беларускай моладзі, зялёны розумам шэф якога даў нейкаму савету інтэрв'ю, інтэрпрэтаванае польскай амбасадаю ў Менску як захапленне фашызмам... Патрэбна абвяржэнне ў *Ніве*.

У выступленні віцэ-міністра Ягелы адчуў я ноткі т.зв. заложніцтва (можа быць цяжка вам, бо цяжка ёсць палякам у РБ!). Я пратэставаў, і нават Барскі прыхільна змаўчаў маю палеміку з Ягелам, які апраўдваўся, што не тое меў ён на думцы. — Мы ж грамадзяне РП, а не РБ, і таму не можам несці адказнасць за палітыку суседняй дзяржавы, хаця яна і беларуская! Іншая справа — наша маральнае ўздзеянне на Менск, супроць ягонага антыпаланізму. (...)

*Ніва* рэпрадукуе службовую нататку ВК ПАРП з восені 1970 г. наконт нашумеўшай тады *справы Яновіча*. Сёння чытаецца гэта, бы нейкі сатырычны тэкст. (...)

**1993 - 03 - 15**

Трыста машынапісных старонак з Карпюковага *Вершалінскага раю*. Перакладу яшчэ каля пяцідзесяці... Скарачаю, падкарочваю, дапісваю за яго (страшэнна многа наіўных або і грубіянскіх фрагментаў). Рыхтую кніжку так, каб мог узяць яе ў рукі цяперашні чытач.

— Ян Максімюк піша ў *Ніве*: (Яновіч) *...даўся выкарыстацца маладым, якія за заслонай яго прозвішча і грамадскай пазіцыі сяк-так сарганізаваліся ў БДА і паволі пачалі новы віток на спіралі гісторыі (а яго самога ў нейкім моманце пакінулі, калі ўжо выціснулі ўсе сокі)*. — Арт.: *Наша „нелегальнасць" скончылася*. (...)

Кожнае наступнае пакаленне глядзіць з усмешкаю на папярэдняе. (...)

**1993 - 03 - 31**

(...) Амаль тыдзень прабыла ў нас Марыя Паўля Сурвіла з Атлянты (дачка Сурвілаў з Канады). Некалькі дзён — у Крынках, і трохі ў Беластоку. Адбыліся важныя падзеі: 75-я ўгодкі БНР і спектаклі купалаўцаў з Менска.

Гадавіну адсвяткавалі па-маладзёжнаму, г.зн. даволі балаганна, але затое сімпатычна. Знак часу праявіўся ў даволі беспраблемнай укамплектоўцы Ганаровага Камітэту на чале з уладыкам Савам (я яго прасіў). Выкруціўся з маіх рук ваявода Пруціс, прыслаўшы на імпрэзу нейкага дырэктара аддзела ВУ у якасці свайго прадстаўніка. Прэзідэнт жа Беластока не дадумаўся да такога нумара. Іншых — спрасілі хлопцы. А публікі, пераважна маладой, сышлося больш, чым было месцаў у залі былога ВДК (вул. Кілінскага).

Свята ўдалося лепей, чымсьці мы пастараліся. Людзі ішлі і ішлі, аж дзіўна было глядзець!

Дакладчыкі не натужыліся, але маладыя яны і таму атрымалася даравальна. Бракавала патрыятычных акцэнтаў у мастацкай частцы.

Настрой у горадзе знакаміта дапоўнілі купалаўцы сваімі беларускімі спектаклямі ў тэатры. Асабліва шмат было гледачоў на *Тутэйшых* *).

Прыхільны тон у газетах. Час змяняецца.

**1993 - 04 - 01**

Генік Мірановіч: уладыка Сава запрасіў да сябе Алега Латышонка і Юрку Каліну (учора?). Намагаючыся гаварыць з імі па-беларуску, пераконваў іх у тым, што Царква заступаецца за нацыянальныя справы беларусаў ...

Як разумець такі паварот з боку князя Царквы? — Нічога не можа ён дабіцца ад польскіх уладаў. Угодкі БНР паказалі, што БДА — гэта не эфемерыда. (...)

*(Працяг будзе)*

-------------

*) *Славутая п'еса Янкі Купалы пра каланіяльную зацюканасць беларусаў alias тутэйшых.*

## Сустрэча ў радыёвяшчанні

У чацвер 12 кастрычніка 1995 г. у сядзібе Польскага Радыё Беласток адбылася сустрэча беларускіх дзеячаў і журналістаў з прэзасам Ежы Мушынскім і кіраўніком секцыі перадач на мовах нацыянальных меншасцей Уладзіславам Праховічам. З беларускага боку ўдзел у сустрэчы прымалі старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, старшыня Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Ян Чыквін, Юры Каліна з „Часопіса" і Алег Латышонак з „Нівы" (якія з'яўляюцца таксама членам Праграмнай рады Беластоцкага радыёвяшчання).

Удзельнікі сустрэч дыскутавалі праблемы звязаныя з беларускімі перадачамі. Пры нагодзе высветлілі яны свае пазіцыі адносна прынцыповай справы: характару гэтых перадач. Прэзас Мушынскі схільны бачыць гэтыя перадачы як свайго роду хроніку дзейнасці беларускага руху. Беларускія прадстаўнікі са свайго боку згодна выказаліся за тое, каб перадачы адлюстроўвалі не толькі арганізацыйнае, але і звычайнае жыццё беларусаў Беласточчыны. Каб задаволіць гэтыя пажаданні, сп. Мушынскі абяцаў увядзенне ў праграму беларускіх перадач элементаў рэпартажу.

Прысутныя прыйшлі да высновы, што падобныя сустрэчы павінны адбывацца рэгулярна. Яны павінны служыць не толькі супрацоўніцтву на мясцовай глебе, але і таксама выпрацоўванню супольнай пазіцыі ў кантактах з цэнтральнымі уладамі. Гэта тычыцца хаця б такой важнай справы, як фінансаванне беларускіх перадач (Беластоцкае радыёвяшчанне не атрымоўвае асобнай субсідыі на меншасныя перадачы). Выпрашана таксама праводзіць асобныя прафесійныя сустрэчы журналістаў радыё і беларускіх часопісаў.

**Алег Латышонак**

# Зорка

## старонка для дзяцей

## У Нарве

Пра сустрэчу з вучнямі Пачатковай школы ў Нарве можна было б пісаць без канца. Сустрэчай пацікавіліся ўсе, што ходзяць на беларускую мову. Зараз у Нарве гэты прадмет вывучае 62 асобы.

— З кожным годам павялічваецца нашая група, — адзначыла настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк. Апрача яе, у малодшых класах заняткі вядзе пані Валя Назарук.

У Нарве многія дзеці чытаюць „Зорку".

Да сустрэчы моладзь падрыхтавалася старанна. Прывіталі мяне шматгалосай дэкламацыяй патрыятычнай паэзіі, а пазней Міхалінка Гэва, вучаніца II класа, па-акцёрску прадэкламавала верш „У гасцях".

Малодшая тэатральная група паказала ўрывак п'есы „Мужык і жонка", дзе галоўныя ролі выконвалі Аня Шарэйка і Лукаш Астроўка. Вучні ў Нарве надзвычай актыўныя. Працуюць тут дзве тэатральныя і дзве дэкламатарскія групы, а чатыры дзяўчынкі — Агнешка Зубрыцкая і Аня Садоўская з VII класа, Ганна Грынявіцкая і Івона Асташэўская з VI кл. рыхтуюцца да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Многія таксама спяваюць у беларуска-польскім гурце „Пронар".



*Вучні малодшых класаў з настаўніцай Валянцінай Назарук.*

### Непазбежныя пытанні

Магутнае ўражанне выклікалі пытанні, якія ставілі мне самі вучні, асабліва са старэйшых класаў. Некаторыя з іх прадстаўляю нашым чытачам:

—На якой мове я гаварыла, калі была вучаніцай пачатковай школы?

— Ці адчуваю сябе палячкай ці беларускай?

— Чаму нашыя бацькі пагарджаюць і саромяцца сваёй роднай мовы?

— Многа я думала, чаму старэйшыя людзі гавораць па-беларуску. Дайшла я да вываду, што навучыліся яе ў час вайны! (Тут многія смяяліся.)

— У ніўскай рубрыцы „Мы прачыталі" было напісана, што ў нас ёсць 100 школ, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Чаму так хлусліва пішуць рэдактары „Новых кантрастаў"? (На гэтае пытанне я таксама хацела б пачуць адказ.)

— Na wakacjach przyjechała do moich sąsiadów dziewczyna z Hajnówki. W moim wieku. Mówię do niej: „Chodź posłuchamy białoruskich piosenek". A ona na to: „Weź przestań z tym głupim białoruskim". Przestałam się z nią spotykać!

Думаю, што не толькі ў Нарве інтэлігентная моладзь ставіць такія пытанні. Пра ўсё гэта дарослым трэба гаварыць з дзяцьмі, каб у будучыні не наракалі яны на абыякавасць да непазбежных пытанняў.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Старэйшая дэкламатарская група.*



*Ніна Абрамюк і яе дэкламатары.*




### Дарагая „Зорка"

Мяне завуць Моніка Мельнік, я вучаніца V „е" класа бельскай „тройкі".

Вельмі табе дзякую за кніжку і за запрашэнне мяне ў вёску Меляшкі. Кніжка вельмі спадабалася. Малюнкі прыгожыя. Кніжка захапляе цудоўнымі казкамі, скарбам вершаў. Вельмі шкадую, што не карысталася запрашэннем і не паехала ў Меляшкі. Сябар расказваў, што было там цудоўна.

Абяцаю, што буду табе пісаць, „Зорка". Дзякую за ўсё.

**Моніка**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, Моніка, табе і ўсім тваім сябрам з V„е"!

### Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу 2 тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 3 змесцім у наступным нумары.

**Наш слоўнік:** Рагоз — pałka wodna.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| NIETOPERZ → ↓ | | CZOŁO → ↓ | | SALA ↓ |
| PAŁKA WODNA → | | GÓRA ↓ | | |
| | | | | |
| ZABA → | | | | |
| | | | ← CZAR | |
| NORA → | | | | |

## Пра ўзнагароды „Зоркі"

Многія чытачы пытаюцца: як праходзіць жараб'ёўка (losowanie) ўзнагарод?

Узнагароды за правільнае рашэнне крыжаванак, загадак, тэматычных конкурсаў разыгрываюць дзеці з беластоцкага беларуска-польскага прадшколля. „Зорцы" дапамагалі дзеці з малодшай групы, бо яны не ўмеюць ні пісаць, ні чытаць, і тады, вядома, усё залежыць ад шчасця. Крышку інакш будуць узнагароджаны карэспандэнты „Зоркі". Аўтары самых цікавых і творчых публікацый будуць прымаць удзел у творчых сустрэчах „Зоркі". Дадаткова будуць праводзіцца штомесячныя конкурсы для ўсіх карэспандэнтаў.

Пластычныя конкурсы будуць праводзіцца па такіх самых прынцыпах як і ўзнагароджванне карэспандэнтаў. Друкаваць будзем самыя цікавыя малюнкі, але ў жараб'ёўцы прымуць удзел усе дзеці, якія даслалі нам малюнкі.

З-ка



Талон "Зоркі" н-р 6
12.11.1995

*Цікавінкі*

# Пра лён

Беларусы заўсёды цанілі лён. Да нядаўна быў ён самай шанаванай раслінай, бо апранаў і карміў. Яшчэ ў дахрысціянскія часы ільну прысвячаліся магічныя практыкі — такі быў ён важны. У час важнейшых паганскіх свят жанчыны варажылі, каб лён вырас як найлепшы. Варажбы захаваліся і ў хрысціянскія часы. На Куццю выцягвалі з-пад абруса сена, а даўжыня каліўца прадвяшчала ўраджай ільну. На Уласа (Масленіцу) спецыяльна ездзілі на санях як мага далей, каб лён быў даўжэйшы. А на Купалле дзяўчаты кідалі ў вогнішча бярозавыя галіны ды прыгаворвалі: „Каб мой лён быў такі вялікі як гэтая бярэзіна”.

— Гладкае, лёгкае, прыдатнае ў кожную пару года, — так хваліў ільняное адзенне Плутарх. Цаніў палатно і Гамер. А ў старажытным Рыме такія абрусы, што ткалі нашыя продкі, былі праявай раскошы. Палатнянае адзенне насілі біблейныя героі, жрацы, фараоны. На егіпецкіх фрэсках III тысячагоддзя да нашай эры намаляваны ўсе стадыі апрацоўкі лёну. Ільняную вопратку насілі воіны персідскага цара Ксеркса.

Калі думаем і ўяўляем старажытных беларусаў, заўсёды прыпамінаецца ільняная вопратка. На Беласточчыне, сярод сялян, ільняная белая вопратка была асновай адзення. Так сустракаем апранутых нашых суродзічаў з Беласточчыны на пажоўклых фатаграфіях канца XIX ст. Існуе нават легенда, што назва „Беларусь” паходзіць ад белай ільняной вопраткі, якую насілі жыхары нашай зямлі. І цяпер вяртаецца мода на ўсё ільнянос. На цэлым свеце цэняць незвычайныя якасці ільняной вопраткі, якая не грэе і не студзіць. І на канец прыбаўлю беларускую загадку, бо ў ёй захавалася сівая мінуўшчына, дзе лён параўноўваецца да найважнейшай справы — палявання.

„Прыйдзе восень, заб'ю лося, галаву з'ем, шкуру аблуплю, а мяса за плот выкіну”.

А. А.

*(паводле В. Рамановіч „Пачаткі роднай мовы”)*



*Сямікласнікі з Кленік.* **Фота Г. Кандрацюк**

### Вучнёўская вторчасць

## Кастусь

Хто любіў чытаць кнігі,
пісаць вершы,
вучыцца?
Кастусь — ён гэтым захапляўся.

Бацька яго — ляснік.
А ў лесе — ціха, ціха.
Дзеці — зімой на печ,
вясною — у пастухі.

Кастусь вучыўся добра,
памагаў бацькам.
З дапамогай настаўніка
пісаў вершы, казкі.

**Аня Садоўская**
**VII кл. Пачатковай школы ў Нарве**

**Ад рэдакцыі:** Аня Садоўская рыхтуецца да прадметнага конкурсу па беларускай мове. „Зорка” жадае ёй перамогі!

## Увага, конкурс!

Пад уплывам якога літаратурнага твора Аня напісала гэты верш? Адказы дашліце ў „Зорку”, а сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды — запісныя кніжкі з календаром на 1996 г.

З-ка

**Рашэнне конкурсу пра сталіцы Беларусі: Полацк, Тураў, Навагрудак, Вільня, Менск.**

Узнагароду — касету гурту „Белы сон” — атрымае **Івона Янцэвіч**, вучаніца V кл. Пачатковай школы ў Чыжах.

# Загадкі з саду (н-р 4)

1) Сярод лесу дзяжа кісне, хто ідзе — кіем свісне.
2) Румяны Піліп да палкі прыліп.
3) Чырвонае цельца, каменнае сэрца, віннае на смак, а завецца як?
4) На градзе агонь ірдзее,
Не пячэцца і не грэе.
Ён пахучы і прыгожы,
Нават дождж заліць не можа.
І з такіх агнёў, праменняў
Вараць смачнае варэнне.
5) Чырвоная шапачка, белая галоўка.

Адказы дашліце ў „Зорку” на працягу 2 тыдняў. Калі адгадаеце хаця б дзве загадкі, будзеце ўдзельнікамі жараб'ёўкі цікавых узнагарод.

Адказ на загадкі н-р 2 у наступным нумары.



*Гэтую ілюстрацыю да казкі "Сварлівая жонка" намалявала Юліта Гаўрылюк з VI класа Пачатковай школы ў Чыжах.*




### Дарагая „Зорка”

Я — вучаніца V„а” класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Мяне завуць Жанэта Роля. На ўроку беларускай мовы мы з сябрамі гаварылі пра тое, як правялі канікулы.

У гэтым годзе канікулы правяла я цікава і весела. Першы месяц, як кожны год, уся мая сям'я была ў Плёсках над Нарвай, у турыстычных доміках. Там вельмі прыгожа. Домікі стаяць у лесе над рэчкай. Я люблю ездзіць туды ў канцы чэрвеня. Тады там няма яшчэ многа турыстаў і можна сустрэць жыхароў лесу. Я бачыла куніцы, зайчыкі, козы і многія птушкі. Побач домікаў бегаюць ваверкі, вечарам ходзяць вожыкі, лётаюць совы. Гэта было для мяне парой спакойнага і цікавага адпачынку. Блізкасць прыроды прыносіць мне вельмі многа радасці. У ліпені ў Плёскі прыязджаюць турысты. Тады можна пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Нашымі суседзямі ў гэтым годзе была сям'я шахцёраў з Катавіц з дачкой Ізай, маёй сяброўкай. Былі там людзі з цэлай Польшчы. Усе захапляюцца чыстым паветрам нашай Беласточчыны.

Хтосьці можа смяяцца, што кожны год я з сям'ёй адпачываю над Нарвай, але я „люблю мой край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла”.

Жанэта

**Ад рэдакцыі:** Жанэта, думаю, што ўсім чытачам „Зоркі” спадабаецца твая пашана і любоў да роднай старонкі. Напамінаю, што будзеш удзельніцай штомесячных конкурсаў „Зоркі” для нашых карэспандэнтаў.

# Пра малога мядзведзя

У вялікім лесе, каля ручая жыў малы мядзведзь, якога называлі Васілёк. Ён меў каханую маму і ўтульную хату. Мама штодзённа прыносіла яму свежую ежу і гралася з малым на сонцы. Васілёк часам быў сумны таму, што ў яго не было сябра, з якім мог бы пагуляць, не было ні сястры, ні брацікa. Найгорш было, калі мама ішла за харчамі, тады Васільку трэба было самому астацца дома. Аднойчы яму захацелася выйсці з бярлогі, але недалёка зайшоў. Ледзь паступіў некалькі метраў, а ўгары нейкая птушка заскрыпела. Малы спалохаўся і наўцёкі. Ён выйшаў яшчэ раз, дайшоў крыху далей. Васілёк убачыў нешта бліскучае, падышоў бліжэй, нахіліўся, а там было такое самае жывое, як і ён. Васілёк уцешыўся, што знайшоў сябра, падскочыў да яго. І ў той жа момант штосьці здарылася. Сябар знік, а Васілёк пачаў тапіцца. Бедалагу ўратавала мама. Калі малы трохі падрос, мама забірала яго на шпацыр. Прагулкі былі доўгія і змучанае мядзведзяня хутка хавалася ў матчынае футра і доўга спала. Так прайшло некалькі тыдняў. Васілёк набраў сілы і паразумнеў. Ужо ведаў, што не трэба палохацца птушыных крыкаў, што ў ручаю ён можа ўмыцца, а тое, што ён бачыць — гэта ягоны адбітак. Штодзённа хадзіў да іншых звяроў, каб пагуляць. Прасіў і дзятла, і барсука, і вожыка, і зайчыка, але ўсе яны, пагуляўшы трохі, далей забаўляцца ўжо не хацелі. Яны гаварылі, што кепская гульня з мядзведзем, што ён непаваротлівы, цяжкі і такі моцны, што ў ягоных лапах трэскаюць галінкі. У кожнай гульні Васілёк рабіў нейкую шкоду, звяры тады гневаліся або смяяліся, а потым увогуле не хацелі гуляць з ім. Васілёк уцякаў да мамы і плакаў. Яму было цяжка на сэрцы.

Аднойчы па-над лесам перайшла вялікая навальніца, паламала галіны і некаторыя дрэвы. Адно з такіх дрэў упала на хатку зайчыка. Небарака не меў дзе жыць і ніхто не мог яму памагчы. Прыйшоў барсук, падумаў, падумаў і пайшоў. Прыйшоў воўк і сказаў, што ягоная яма вялікая і там разам могуць спакойна жыць: і ён, і зайчык. Аднак Шэранькі не пакарыстаўся прапановай. Ён баяўся спаць у воўчай яме. Потым прыйшлі вожык і алень, але яны таксама не ведалі, што зрабіць. Аж хтосьці дадумаўся, што за парадай трэба ісці да савы — Мудрай Галавы. Так і зрабілі. Сава сказала, што трэба дапамогі шукаць у таго, хто мае вялікую сілу, напрыклад, у мядзведзя. Цяпер усе прыпомнілі сабе сябра сваіх няўдалых гульняў і свае смехі над ім. Што ж было рабіць, пайшлі да Васілька. Ён хутка прыбег, адной лапай узяў дрэва і адкінуў яго.

З гэтай пары ўжо ніхто не смяяўся з нязграбнага Васілька, усе ведалі, што такі цяжкі і моцны вельмі патрэбны ў лесе і гулялі з ім. Так Васілёк знайшоў сяброў, з якімі мог гуляць і якім мог памагаць.

**Анна Даманская**
**студэнтка III курса славянскай філалогіі Каталіцкага Люблінскага універсітэта**

## Конкурс!

Зрабіце ілюстрацыі да гэтай казкі і дашліце іх у „Зорку”.

# Беларусы ў гасцях у беларусаў

Урадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на гэты раз была нетыповая: прыехала ў Польшчу вялікім аўтобусам, загружаным падручнікамі, букварамі, сшыткамі, навуковымі дапаможнікамі, гульнямі, відэаапаратурай і іншымі патрэбнымі рэчамі, прывезенымі ў падарунак беларускім дзецям і моладзі. Кніжкі, якіх у суме было 6 515 экземпляраў, былі перададзены Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь па даручэнні ўрада пад непасрэдным кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча.

Дэлегацыю ўзначальваў прафесар Анатоль Гарнак — віцэ-міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, а ў яе склад уваходзілі Аляксандр Білык, галоўны спецыяліст Кабінета Міністраў РБ, адказны за супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай, дарадчык віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча, і Генадзь Пяцігор — галоўны інспектар Упраўлення міжнародных сувязей Міністэрства адукацыі і навукі РБ, добра вядомы ўжо на Беласточчыне.

25 кастрычніка 1995 г. дэлегацыя ў суправаджэнні Генеральнага консула РБ у Беластоку Міхася Слямнёва наведала Бельскі і Гайнаўскі беларускія ліцэі, Дом культуры ў Гайнаўцы і Беларускі музей.

### На парозе Бельскага ліцэя

сустрэлі дэлегацыю дырэктар ліцэя Зінаіда Навіцкая і Тамара Русачык, візітатар Куратарыі асветы, беларусавед. „Ніколі столькі кніг мы не атрымалі, вельмі добрыя кніжкі, — сказала ў захапленні Тамара Русачык. — Усе яны будуць выкарыстаны. Буквары пойдуць у пачатковыя школы і на вёску".

А дзеці цягалі і цягалі з аўтобуса гэты прыемны цяжар — кнігі. Насілі хлопцы і дзяўчаты з ліцэя. Як падсумавала Тамара Русачык, „паўшколы выгружала цэлую гадзіну".

Восенню мінулага года Бельскі беларускі ліцэй адсвяткаваў сваё 50-годдзе, бо быў ён створаны тады, калі на заходніх франтах яшчэ не адгрымелі гукі другой сусветнай вайны. За гады сваёй працы ліцэй выпусціў 2 963 абітурыентаў, якія стартавалі ў жыццё з беларускім словам у сэрцы. Вядома, якой цяжкой сёння справай з'яўляецца ў Польшчы школьніцтва нацыянальных меншасцей. Наступае гвалтоўная асіміляцыя, на Беласточчыне змяншаецца колькасць вучняў, якія хочуць вывучаць беларускую мову. Але ў Бельскім беларускім ліцэі і Пачатковай школе н-р 3, якая з'яўляецца яго жыватворнай крыніцай, колькасць вучняў не малее, а расце.

Сёлета ў ліцэі чатыры першыя класы. „Многія хочуць, — гаворыць дырэктар Зінаіда Навіцкая, — нават перайсці ў наш ліцэй з іншых, хаця чакае іх дадаткова чатыры гадзіны ў тыдзень беларускай мовы, але што ж, калі мы не маем месц".

Магчыма, што аб гэтай папулярнасці вырашае факт, што тут высокі ўзровень навучання: больш васьмідзесяці працэнтаў вучняў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Немалое значэнне мае і тое, што ў ліцэі было шмат пераможцаў прадметных алімпіяд, якія пасля маглі паступаць у вышэйшыя школы без экзаменаў. „У мінулым годзе, — расказвае візітатар Тамара Русачык, — упершыню адбылася беларуская алімпіяда, у якой удзельнічалі 44 асобы. Гэта вельмі многа. Алімпіяда паказала, якія глыбокія веды ў нашых вучняў і ў беларускіх прадметах".

Пра ўсё гэта расказвалі настаўнікі беларускім гасцям. А пасля ў гімнастычнай зале адбылася сустрэча з вучнямі чацвёртых класаў, якія вельмі хацелі ведаць, як можна паступіць на вучобу ў вышэйшыя школы на Беларусі. У мінулым годзе з Беласточчыны на Беларусі вучылася сорак асоб, у тым ліку з Бельска — адзінаццаць. „Як паступіць? — сказаў Генадзь Пяцігор, найбольш кампетэнтны ў гэтых справах. — Прыедзе камісія, выбярэ найлепшых. З тройкамі не бярэм. З тройкамі яны проста не паздаюць пасля экзаменаў. Напрамкі вы будзеце выбіраць самі. На медыцыну трэба здаць тэсты: па біялогіі, хіміі і фізіцы (на месцы). Трэба таксама здаць экзамен на музычныя кірункі, у Акадэмію фізічнага выхавання. Але мы зацікаўлены, каб вы ішлі на беларускі напрамак!".



*Вучні Бельскага беларускага ліцэя носяць атрыманыя ў падарунку кніжкі.*

Пасля дырэктар школы паказала гасцям ліцэй („Вось у нас гэтага не робяць, — сказаў віцэ-міністр Анатоль Гарнак, аглядаючы на сценах калідора здымкі выпускнікоў з розных гадоў. — А шкада!"), новую камп'ютэрную залу, а таксама новую імпазантную спартыўную залу ў Пачатковай школе н-р 3, за якую настаўнікі і бацькі змагаліся дзесяць гадоў, робячы пры гэтым немалыя выдаткі з уласнай кішэні. Развітаўшыся цёпла ў Бельску, дэлегацыя накіравалася ў

### Гайнаўскі беларускі ліцэй

і, каб не траціць часу, дырэктар школы Яўген Сачко адразу павёў гасцей на ўрок беларускай мовы, у клас І „д", а іншыя вучні насілі з аўтобуса кніжкі. Настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч (выхавацелька гэтага класа) для ўрока выбрала вельмі трапную тэму: „Не толькі жыве чалавек хлебам" (Ф. Скарына). На цудоўнай беларускай мове (большасць з іх, — падказвае мне дырэктар школы, — не з горада, а з падгайнаўскіх вёсак, прыемна з імі працаваць) дзеці бойка адказваюць, што можна жыць яшчэ працай, верай, надзеяй, вадой, песняй, паэзіяй. Чакалі, відаць, доўга, бо калі пад'ехаў аўтобус, пачалі праз вокны радасна махаць рукамі.



*Памятны здымак беларускай дэлегацыі з парламентам Гайнаўскага беларускага ліцэя.*

„...Задумаемся сёння над беларускім словам, — кажа настаўніца Вольга Сянкевіч. — Сустрэнеш вось сябра, якому не хапае беларускай свядомасці, а ты мусіш пераканаць яго, што ён — беларус. Што ты яму скажаш?"

Настаўніца — выпускніца гэтага ж ліцэя, пасля закончыла Беларускую філалогію пры Варшаўскім універсітэце. Восемдзесят працэнтаў працуючых тут настаўнікаў гэта выпускнікі Гайнаўскага ліцэя.

На падставе твораў Т. Канвіцкага, У. Сыракомлі, У. Караткевіча дзеці акрэсліваюць рысы беларусаў: працавітыя, добрыя, гасцінныя, высакародныя, даверлівыя, пазбаўленыя помслівасці, талерантныя, шчодрыя, адным словам, „добрая зямля добрых людзей", як сказаў Тадэўш Канвіцкі. Адзін з вучняў сцвярджае, што беларусы маюць нізкую самасвядомасць, а хтосьці канстатуе: замала цвёрдыя, лепш памаўчаць і будуць праліваць слёзы ціха, дык мо таму Беларусь і не стала вялікай моцнай дзяржавай.

Настаўніца зводзіць яшчэ гутарку на прыгажосць і стародаўнасць беларускай мовы, пра якую гаварыў у свой час Адам Міцкевіч, і задае дахаты заданне: напісаць у чатырох-пяці сказах, што хто б сказаў таму несвядомаму хлопцу, каб пераканаць яго, што ён — беларус. Песняй пра родны край дзеці першага „д" развітваюцца з гасцямі.

Урок гасцям надзвычай спадабаўся, цяпер знаёмяцца са школай. Вялікая, прасторная — новая. Гэта таксама было балючае месца ў беларускай асвеце, але вось ужо два гады, як дзеці вучацца ў новых сценах. Праўда, адна сцяна ўнізе ўжо лопнула і выглядае гэта не надта, але дырэктар спадзяецца, што гэта можна будзе лёгка направіць. Бяда, кажа, з вялікай гімнастычнай залай, будову якой часова спыніла Кураторыя. Консул абяцае пагаварыць у гэтай справе.

А тады... сустрэча з 25-асабовым школьным парламентам, які ўзнік у мінулым годзе. І пачынаецца гутарка, як сярод парламентарыяў. Дзяўчынка з цяжкасцю адчытвае з паперкі загадзя падрыхтаваныя, даволі клапатлівыя пытанні міністру: Якая ў вас грамадская сітуацыя? Чаму ў вас выбралі такога антыдэмакратычнага прэзідэнта?

„Калі б быў недэмакратычны, — адказвае міністр, — яго б, думаю, не выбралі, а што датычыць беларускай мовы, дык яна перажывае адраджэнне. А наогул заўважаецца, што нехта вельмі хоча, каб славяне кепска жылі між сабою."

І тады настаўнік гісторыі Яўген Вапа ставіць пытанне рубам: „Чаму вы не гаворыце праўду, як там і што ёсць?"

Міністр: „Я так скажу, што калі ўжо народ выбраў прэзідэнта, дык трэба яго шанаваць. Лукашэнка — гэта вельмі добрасумленны чалавек!"

Сітуацыя накаляецца. І тады, не без дапамогі дыпламатычнай службы, госці пераходзяць у наступленне. А што вы як парламентары зрабілі для свайго асяроддзя? — Выбух смеху. — Як вы супрацоўнічаеце са сваім „прэзідэнтам" — дырэктарам школы?

„Сама я, — гаворыць Каця Сахарчук, мінулагодні маршал парламента, — старалася яго абмінаць, бо ён важнейшы. Так сказала мая мама".

„У нас усё, як у дарослым парламенце, яўнае галасаванне, — сказала іншая сяброўка. — Мы хацелі хутчэй прыняць праграму, а ўжо як прынялі яе, дык перасталі прыходзіць нават на пасяджэнні..."

Беларусы — народ не гняўлівы, і на заканчэнне сустрэчы дзеці хочуць зрабіць супольны з гасцямі здымак.

Ага, цікавілі яшчэ вучняў справы, звязаныя з паступленнем у вышэйшыя школы на Беларусі. „Беларусы замежжа, — тлумачыў Генадзь Пяцігор, — не плацяць нічога за навуку, як гэта робяць іншыя студэнты з-за мяжы. Яшчэ ім плацяць стыпендыю, як усім беларускім студэнтам. Не займайце месцаў, — прасіў ён, — калі вы не прадумалі справу глыбока. У мінулым годзе не даехала пяць асоб (у тым ліку чатыры — у Акадэмію фізічнага выхавання), для якіх былі пакінуты месцы. Іншыя маглі б жа вучыцца. Цяпер мы хочам, каб матуральныя пасведчанні прывозіліся ў арыгінале, а не копіі, ці ксеракопіі".

Пра тое, што ёсць месца для здольнага мастака ў Віцебску, горадзе Шагала, на мастацка-графічным факультэце універсітэта, дадаў консул Міхась Слямнёў (нехта падказаў, што кандыдат ёсць — аўтар вялізнай карты Вялікага княства Літоўскага, што вісіць на сцяне), а Генадзь Пяцігор растлумачыў, што каб штудзіраваць цікавячы вучняў „бізнес", трэба паступіць у Мінскую эканамічную акадэмію. Але ўсе адзнакі маюць быць не ніжэй чацвёркі.

Пасля сустрэчы з парламентарыямі госці выслухалі літаратурна-музычны мантаж, падрыхтаваны вучнямі ліцэя пад кіраўніцтвам настаўніцы Бажэны Леўчук, якая толькі ў мінулым годзе закончыла ў Мінску Музычную акадэмію па класу фартэпіяна. У школе вучыць іграць на піяніна і вядзе музычны калектыў.

На заканчэнне сустрэчы Генеральны консул Беларусі Міхась Слямнёў у простых, але моцных словах падзякаваў настаўнікам ліцэя: „Вы сваёй працай, сваёй нязломнасцю дасце маральны прыклад беларусам на Беларусі!" Ці ж можна было сказаць прыгажэй!

Шкада было гасцям расставацца з гэтымі людзьмі, але ж перад імі быў яшчэ Дом культуры і Беларускі музей, у які, зрэшты, запрасілі іх на начлег. Ёсць ужо дзе пераначаваць беларусу ў Гайнаўцы.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# БЕЛАСТОЦКІЯ ЗБЛІЖЭННІ

На аснове цыкла мерапрыемстваў „Літаратурныя аўтапартрэты", пачатых яшчэ ў васьмідзесятых гады Ваяводскай публічнай бібліятэкай імя Лукаша Гурніцкага ў Беластоку, у якіх грамадскасці горада прадстаўляліся найбольш вядомыя пісьменнікі Беласточчыны, а таксама і некаторыя „белавежцы", узнікла думка выдаць кніжку „Партрэты беластоцкіх пісьменнікаў". Бібліятэка занялася падрыхтоўкай матэрыялаў для гэтага выдання.

Нарысы аб літаратурных дасягненнях дзевятнаццаці пісьменнікаў, у іх ліку і аб творчасці трох „белавежцаў" — Яна Чыквіна, Міхася Шаховіча і Сакрата Яновіча — напісалі сем вядомых аўтараў. Аж дзевяць нарысаў прыпала на долю вядомага беластоцкага літаратурнага крытыка Вальдэмара Смашча, які таксама напісаў абшырны ўступ да кніжкі. Адну старонку ва ўступе прысвяціў ён дасягненням „Белавежы", сцвярджаючы між іншым: „Перамены ў Польшчы ў 1956 годзе прынеслі пэўнае ажыўленне. З тым, што найраней арганізаваліся творцы, што пішуць на беларускай мове. Неўзабаве ўтварылі яны літаратурную групу „Белавежа", а ў мясцовым беларускім тыднёвіку „Ніва" пачалі паяўляцца раз у месяц літаратурныя старонкі. І чаго можна пазайздросціць гэтаму асяроддзю — гэта якраз працягласці традыцыі. Усе іх ініцыятывы жывыя да сёння. Адбываюцца семінары „Белавежы", паяўляюцца чарговыя альманахі і індывідуальныя зборнікі" (стар. 12-13).

Падрыхтаваная Ваяводскай бібліятэкай кніжка выйшла з друку ў канцы 1990 года [1]).

На працягу пяці мінулых гадоў ад выдання першай часткі „Збліжэнняў" Беласток стаў вядомым у краіне культурным асяродкам, наступіла бурнае развіццё мастацкай літаратуры. Паявілася шмат новых прозвішчаў, творцы жывога слова дачакаліся па некалькі зборнікаў паэзіі і прозы, на падставе якіх сталі членамі саюзаў польскіх пісьменнікаў. Узнікла неабходнасць выдаць другую частку „Збліжэнняў".

20 кастрычніка г.г. у чытальнай зале Ваяводскай бібліятэкі адбылося абмеркаванне (promocja) чарговай, другой часткі кніжкі, рэдактарам якой з'яўляецца працаўніца бібліятэкі Барбара Пехоўска-Шчэбёт [2]).

Ва ўрачыстасці ўдзельнічала літаратурнае асяроддзе Беластока і прыхільнікі гэтага асяроддзя, а таксама зацікаўленая мастацкай літаратурай моладзь беластоцкіх сярэдніх школ. Пры ўваходзе ў залу прадавалася прыгожа афармленая, надрукаваная на добрай паперы кніжка. Змешчаны тут нарысы шасці аўтараў аб літаратурнай творчасці пятнаццаці пісьменнікаў Беласточчыны. Знайшлося тут таксама двое „белавежцаў" — Надзея Артымовіч і Віктар Швед, якім свае нарысы прысвяцілі Ян Леанчук і Аляксей Пяткевіч. Прысутных у зале сардэчна прывітала дырэктар Ваяводскай бібліятэкі Валянціна Сіняковіч. Пісьменнікаў „Збліжэнняў" прадставіла публічна працаўніца бібліятэкі Данута Маркоўская. З уступным словам выступіў Вальдэмар Смашч — аўтар дзесяці нарысаў і ўступу да кніжкі. Характарызуючы беластоцкае літаратурнае асяроддзе ён, між іншым, сцвердзіў, што ў кніжцы абмяркоўваецца творчасць не ўсіх яшчэ пісьменнікаў Беласточчыны, што расце новая змена маладых аўтараў, якія ўжо маюць па адным або па два зборнікі. І таму неўзабаве трэба будзе рыхтаваць новую, трэцюю частку „Збліжэнняў". „Уласную выдавецкую серыю, — напісаў ва ўступе да кніжкі В. Смашч, — пачало асяроддзе пісьменнікаў, якія пішуць на беларускай мове. Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" налічвае ўжо трынаццаць кніжак падрыхтаваных у беларускай, польскай і двухмоўнай версіях" (стар. 8).

Тут хачу ад сябе дадаць, што праўленне „Белавежы" павінна клапаціцца, каб у новай кніжцы апынуліся таксама „белавежцы", прынамсі члены Саюза польскіх пісьменнікаў.

Пасля выступлення В. Смашча акцёры варшаўскіх і беластоцкіх тэатраў, сярод якіх быў агульнавядомы акцёр Войцех Семён, чыталі вершы і фрагменты прозы змешчаных у кніжцы пісьменнікаў Беласточчыны. Вершы Надзеі Арымовіч у перакладзе Яна Леанчука чытала Анна Раманоўская. Вершы Віктара Шведа ў яго ўласным перакладзе на польскую мову чытала Бажэна Бэднарэк з Польскага радыё з музычным суправаджэннем Паўла Шыманскага, акцёра Лялечнага тэатра ў Беластоку.

Варта прыгадаць, што вядомы беластоцкі мастак балгарскага паходжання Дымітр Гроздаў падрыхтаваў партрэты пісьменнікаў „Збліжэнняў", якія дэманстраваліся на сценах залы. Беластоцкі пісьменнік Збігнеў Вайдык прысвяціў удзельнікам „Збліжэнняў" эпіграмы, якія прачытала Б. Бэднарэк. У калідоры бібліятэкі ўстаноўлена зашклёныя шафкі з літаратурнымі зборнікамі пісьменнікаў, якім прысвечана другая частка „Збліжэнняў".

Вялікая ў тым заслуга выдаўца кніжкі — Ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку.

**В. Ш.**

---

1) Zbliżenia. Portrety białostockich pisarzy. Białystok 1990, str. 256.

2) Zbliżenia. Portrety białostockich pisarzy. Białystok 1995, str. 320.

# Сённяшні дзень беларускай прэсы — развагі і праблемы

*Працяг са стар. 1*

пратэсты і смелыя акцыі салідарнасці. Мы да гэткага яшчэ не дайшлі, наша пакутная біблейская дарога абнаўлення і інтэлектуальнага выпроствання, відаць, толькі пачынаецца і разлічваць даводзіцца адно на ўласныя сілы і магчымасці. Свет даволі раўнадушна глядзіць на наша трапятанне, заняты сваёй сытай будзённасцю. І так хацелася б пры гэтым мець падтрымку і разуменне строгай судовай улады, у якой адзін-адзіны дарадца і павадыр — яго Вялікасць Закон, аднолькавы і для ўсемагутнага рашучага прэзідэнта, і для наіўнага даверлівага маладога літсупрацоўніка. Але ж дзе там чакаць абароны справядлівасці ад нашых вучоных служак Феміды, калі і хамскі здзек з падранага, юрыдычна ўсё яшчэ дзяржаўнага, сцяга яны здолелі зневажальна кваліфікаваць як утылізацыю зношанага палотнішча? Усё тут пачварна злілося ў адно — і нізкі прафесійны ўзровень юрыстаў, і незайздросная роля правасуддзя ў краіне, і бессаромнае халуйства праўнікаў перад тупою, але рэальнай сілай. Закон, які дэманстратыўна не прызнае і зневажае хаця б адзін грамадзянін дзяржавы пры яе абыякавым і адкрытым патуранні, перастае быць гарантам права і ахоўнікам грамадства і становіцца хамутом, які непазбежна націрае крывавыя пісягі на яшчэ не зламанай народнай шыі.

Як у такіх умовах жыць прэсе, што па сваёй прыродзе павінна быць нераўнадушнай і аналітычнай, а значыцца і крытычнай, смелай і апазіцыйнай да любой дурасці і недасведчанасці? Як ёй выжыць пры амаль поўнай манаполіі дзяржаўнага чынавенства на друкарні і распаўсюджванне масавых выданняў? Сумна прызнаваць, але агульных рэцэптаў няма і ў кожнай канкрэтнай рэдакцыі свой вопыт, часта горкі і нават абразлівы. Адно толькі ясней яснага — без згуртаванасці і сумленнасці калектыву ўтрымацца на пазіцыях цывілізаванай годнасці і сучаснага прафесіяналізму немагчыма. Побач жа так многа спакус лёгкага і забяспечанага жыцця, якія заманліва падсоўваюць журналістам то багаценькія камерсанты, якім хочацца засведчыць сваё з'яўленне ў дзелавым свеце, то ўплывовыя наменклатурныя выжлы, якія ўсё больш настойліва вяртаюць лозунгі і звычкі сатлелай савецкай імперыі. Вось і зусім нядаўна, як кажуць, на свае вочы мы мелі магчымасць назіраць, як адзін наш папулярны калега, былы бойкі і іранічны франдзёр, закадычны сябра ўсіх дэмакратаў і інтэлектуалаў лёгка і хутка перафарбаваўся ў шматслоўнага афіцыйнага гаваруна з умела размытымі межамі дабра і зла, аб'ектыўнасці і ўгодніцтва, праўды і подлай хлусні. І газета ягоная імкліва пачала папаўняцца раздражнёнасцю і гучна чырванець — можа, ад няёмкасці такога нечаканага пераўвасаблення, а, можа, ад натужлівых прэтэнзій на лідэрства ў зацятым паляванні на любоў вяльможных чытачоў. Што на гэта можна сказаць? Як ні сумна, у нашага „шматпрофільшчыка" ёсць аднадумцы і свая вялікая аўдыторыя, ёсць салідныя апекуны і зайздрослівыя паслядоўнікі, урэшце ў яго ёсць поўнае права ў меру таленту прапагандаваць уласныя прынцыпы і інтарэсы самаўпэўненых куратараў. Толькі ў яго, здаецца, няма ўжо — і хто скажа, ці будзе калі, — свабоды духу і незалежнасці творчасці. Цяжка сказаць, якія словы ён выбера для сваіх штотыднёвых папулісцкіх сентэнцый, але ўжо зусім лёгка здагадацца, пра што будуць яны. Слабы чалавек, нават калі ў ягоных руках вострае пяро...

Паслядоўнасць дэмакратычнай прэсы — адна з зарук яе жыццяздольнасці і аўтарытэту. Не кідацца бяздумна за кожным павевам палітычнага ветру, не асляпляць сябе і іншых бенгальскімі ўспышкамі сенсацый, а ўпарта весці сваю галоўную дарогу, на якой сышліся праўда факта і сэнс часу, пафас выкрыцця і пяшчота споведзі, патрабавальнасць да дзяржавы і давер да чалавека, — толькі гэтак можна заваяваць павагу сучаснікаў і ўвагу нашчадкаў.

Вялікая адказнасць у журналістыкі і журналістаў. У журналістыкі — перад гісторыяй, перад народам, перад прафесіяй. У журналістаў — яшчэ і перад законам, перад сябрамі і ўласным сумленнем. І прызванне газеты — быць не баявым лістком партыі, не інфармацыйным бюлетэнем улад ці калектыўным полем для адточвання красамоўства, а люстэркам і трыбунай грамадскай думкі. Невыпадкова ж прэсу не паважаюць і прыгнятаюць якраз там, дзе няма дэмакратыі, дзе правадыры не лічацца з воляю і настроямі народа і пад цяжкімі сцягамі цемрашальства гадуюць крывыя кіпцюры дыктатуры. Па-сапраўднаму незалежная, свабодная прэса можа вольна дыхаць і адчуваць сябе патрэбнай людзям толькі ў прававой дзяржаве, толькі ў руках высокамаральных і адораных талентам прафесіяналаў.

Ці будзе такое ў нас? Не сумняваюся, што абавязкова будзе, бо пад шэрым асфальтам казёншчыны і спалоху прачнуліся ўжо кволыя, але невынішчальныя парасткі дэмакратыі і прагрэсу. Калі гэта будзе? На жаль, па ўсім відаць, яшчэ не скора, можа, нават не пры нашым жыцці. Але калі такі час настане, хай тады грамадзяне суверэннай Беларусі ўспомняць і нашы гады, і нашу працу і скажуць з разуменнем і спагадай: ім было вельмі цяжка, але яны рабілі ўсё, што маглі, не мірыліся з самаўладдзем і невуцтвам. І хіба гэта не будзе нашай перамогай і нашым шчасцем?..

**Генадзь Бураўкін**

---

22-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

# Пра адраджэнне і новае жыццё

*(Гал., 6: 11-18)*

Ліст Апостала Паўла да галатаў напісаны быў праўдападобна ў 54 годзе ў Эфесе і адрасаваны да былых паганцаў у Малой Азіі. Звяртаючыся да сваіх духоўных дзяцей, Апостал канцэнтруе сваю ўвагу на непрыдатнасці Майсеевага закону для збаўлення. Пад уплывам яўрэяў, якія былі аднак меншасцю, ахрышчаныя паганцы пачалі прымаць яўрэйскі рытуал абразання. Даведаўшыся пра гэтае, Апостал Павел пераконвае іх, што „ў Хрысце Ісусе нічога не значыць ні абразанне, ні неабразанне, але новае тварэнне, і хто паступае паводле гэтага — мір яму і змілаванне" (Гал., 6: 15-16).

Біблія вельмі часта гаворыць пра змену жыцця, якую Хрыстос меў на думцы ў часе гутаркі з Нікадзімам. Словамі прарока Езекііля Бог абяцаў: „Я дам вам новае сэрца і духа новага дам вам у вашае нутро" (Ез., 36: 26). У кнізе Дзеяў Апостальскіх Пётр называе гэтую змену „пераўтварэннем". У Лісце да рымлян апостал Павел называе яе „ажыўленнем з мёртвых", а ў Лісце да каласянаў „сцягваннем з сябе старога чалавека з учынкамі яго і апрананнем у новага чалавека, які абнаўляецца ў пазнанні на ўзор Стварыўшага яго" (Кал., 3: 9-10). У Лісце да Ціта называе гэтую змену „купеллю адраджэння і аднаўлення Духам Святым" (Ціт., 3: 5).

Новае нараджэнне — не проста папраўа жыцця. Людзі ахвотна даюць абяцанні, аднак пра іх забываюць. Святое Пісанне прадстаўляе змену вельмі рэльефна: гэта паварот ад пажадлівасці да святасці, ад цемры да святла, ад смерці да ўваскрэсення. Новае нараджэнне становіцца прычынай змен волі, пачуццяў, мэты жыцця і ўнутраных схільнасцей. Такі чалавек атрымоўвае новую натуру і новае сэрца. Ён становіцца новай істотай.

Калі азірнуцца назад, у гістарычнае мінулае, бачна, што амаль кожная эпоха намагалася сфармаваць чалавека на свой лад, стварыць у свой час „новага" чалавека з новымі ідэямі, ідэаламі і мараллю. Возьмем для прыкладу вельмі рэальную з'яву — „савецкага чалавека". Яго дзесяцігоддзямі фармавалі, перавыхоўвалі, дапасоўвалі да патрабаванняў „новага грамадства". Рабілася гэта жахліва ўпорыста, апантана і няўхільна пачынаючы ад дзіцячага садка. Каб пераканаць, напрыклад, малых дзетак, што ніякага Бога няма, наўмысна даўжэйшы час не давалі ім есці, а потым з'едліва прапанавалі прасіць, каб Бог паслаў ежу. Абед, зразумела, не з'яўляўся і тады ўсе галасна прасілі ежы ў дзядзькі Леніна, пасля чаго зараз жа з'яўляўся смачны абед. Гэтак перавыхоўваліся дзеці на прыкладзе Паўліка Марозава. Старэйшых перавыхоўвалі ў гулагах і на лесапавалах. Я сам чуў, як адзін беларускі афіцэр у дыскусіі аб сталінскіх рэпрэсіях спакойна заявіў: „Ничего страшного — перевоспитаем и вернётся". У выніку такога „перевоспитания" ўзнікла хворае грамадства, з бескантрольнай злачыннасцю, незлічонымі разводамі, абортамі, узаемнай варожасцю, падхалімствам, даносамі і кар'ерызмам.

Мікалай Ваднеўскі ў кніжцы „Не хлебам адзіным" згадвае наступны прыклад. Адзін чужаземец, пабываючы ў Савецкім Саюзе, спрабаваў засароміць юнака, які ўпіхаючыся ў перапоўнены аўтобус лаяўся нецэнзурнымі словамі і локцямі адштурхоўваў жанчын з пакупкамі. „Як вам не сорамна... Вы ж адукаваны, рускі чалавек", — сказаў яму. „Я не рускі, я — савецкі", — адказаў прадстаўнік „перадавога" ў свеце грамадства. Нядаўна адзін беларус, які спадзяецца атрымаць у Нямеччыне палітычнае прыстанішча, расказаў, што чаўпуць гэтыя цяпер ужо былыя „савецкія людзі" ў інтэрнаце для ўцекачоў у маляўнічай баварскай вёсцы. Расказаўшы дэталі, ад якіх валасы дыбам на галаве падымаюцца, ён заявіў: „Мне сорамна за нашых". Ён прынамсі захаваў пачуццё прыстойнасці, чаго нельга сказаць пра ўсіх. Проста, атрымалася дакладна так, як гаворыцца ў Святым Пісанні: „Што пасееш, тое і збярэш" або кажучы словамі пагаворкі: „За што бароліь, на то і напароліся".

Сёння зноў трэба выпраўляць скрыўлены менталітэт грамадства, але гэта карпатлівы працэс. Каб скінуць з сябе старога, „савецкага" чалавека, спатрэбіцца не менш часу, чым Майсею ў пустыні. Адно толькі пэўнае: чарговы паварот у нашай нялёгкай гісторыі патрабуе, мабыць, перш за ўсё аздараўлення грамадства і ўнутранай змены чалавека. Царква менш ці больш паспяхова, але нязменна заклікае да такой змены і спрыяе ёй.

**а. Канстанцін Бандарук**

# На Паторцы

*(быль)*

На Паторцы каля Н. жыў Жорка. Хату, прасторную, шчытом да вуліцы, паставілі яшчэ ягоны бацька Іванко з дзедам Міхалём амаль паўстагоддзя таму. Іванко славіўся аж у трох гмінах сваімі печкамі і мураванкамі, але сабе хату змайстраваў драўляную, здаровую. Ды прыйшлося яе нядаўна абкладваць цэглай, паднялі яе за вуглы і падрубы на новы, умацаваны вялікімі камянямі цэментавы падмурак. Выбілі новыя вокны, большыя, у дзве паловы, з фортачкамі. Гэтак завяла маладая Жоркава жонка, Гануся.

Цудам называлі Ганусю ў вёсцы, так як і тое, што рашыла ісці на Паторку. Чаго тут ёй шукаць, дзеўцы з сярэдняй адукацыяй, толькі што па школе, тут во, і з Жоркай, якому добра пад сорак! Што з таго, што гаспадарка ў яго някепская, і машыны амаль усе мае, калі тых кароў ды свіней не злічыць? То ж рукі сабе да локця адрабіць можна! А харошая Гануся, як карцінка! Праўда, і Жорка як маляваны, высокі, чарнявы, і дзеўкі за ім шалелі, асабліва калі яшчэ ў гурце „Імператар” на бас-гітары іграў ды спяваў пра нешчаслівае каханне (*ты мне пожуціла, для чего то зробіла, не зрозуме нік, о-о-о, о дзевчыно...*). Не заўважыў Жорка, як яго аднагодкі, што зараз па арміі або і раней абзавяліся сем’ямі, пачалі ўжо збірацца сваіх дзяцей жаніць ды замуж выдаваць. Ездзіў яшчэ па забавах, але ўжо ўсё меншае ўражанне рабіў на дзяўчатах (ды і менш усё іх было па вёсках) — над пасачак над нагавіцамі вылазіў яму ўсё круглейшы жывоцік, паявіліся залысіны ў кучаравым чорным чубе і голас страціў гучную прывабнасць, якая калісьці даводзіла слухачак да дрыжыкаў і слёз. Новы вакаліст „Імператара II” не меў пад апекай кароў ды свіней (аддаў яго бацька гаспадарку *пад жонд*), меў час ездзіць па забавах, і нават не запрапанавалі Жорку запісацца на касету *Disco-Polo*, якую накруцілі ў новым складзе, хаця раней абяцалі. Пакрыўдзіўся вельмі Жорка, бразнуў сястрой-гітарай (так яе пяшчотна называў) аб падлогу і забраўся дадому.

Ганусю выпісаў Жорка з газеты. Напісалі да сябе пару лістоў, абмяняліся фотаздымкамі. Прыехала на Паторку, агледзела, што і як. Файна тут, сказала, ёсць кантакт з прыродай. Але неабходна ў хаце ванну мець, хто ж у балеі будзе купацца, і каб гарачая вада не з парніка, а з бойлера, і цэнтральнае ацяпленне, і, каб зусім было па-людску, пліткай выкласці і кухню, і ванную (зрабілі яе ў каморцы)... Ага, і каб не падлогі з дошак, а паркет. Можа быць дубовы, але хай бы і ясеневы, абы ўзор прыгожы. Ну і, вядома, срачык каб у хаце быў, не бегаць жа ў будку за клуняй...

Прадалі Ляўшуны шмат што, зрабілі хату рыхтык як хацела Гануся. Праўда, за такія штукі стары Іванко ўжо не браўся, — тут іншы майстар патрэбен. Хатку вырыхтавалі такую, што як у шклянцы стала — суседзі палюбавацца прыходзілі. Ганுся сустракала ўсіх ветліва, частавала, і сама не была супраць бліжэй пазнаёміцца з суседкамі. Хутка яны заўважылі, што Ляўшуноў у хаце будзе больш.

Толькі неяк зарана Гануся нарадзіла. Можа, надарвалася, толькі што не было пры чым, бо муж не даваў ёй да нічога дакрануцца. Хлопчык, як на няпорнага, надта ж вялікі быў, больш за чатыры кіло. Прывёз Жоржык малога дахаты непрытомны ад радасці, хваліўся сынам як родным, але ж слялы не быў. Ну, як там сабе ладзілі ў хаце Ляўшуны, не наша і не суседзяў справа, — не на вачах — не ў сэрцы. Пра сваркі ніхто не чуў. Адась рос здаровы, Гануся сядзела ў хаце, і хоць часу ў яе не было на нуду, відна, сумавала, і быццам зачахла — гасла ў вачах яе асляпляючая краса.

Калі малому споўніўся трэці год, здала яго маці ў садок, пайшла працаваць у Н. *скляповай*.

Аднойчы ў спажывецкую краму з *дастаўай* прыехаў новы шафёр.

— Ганýся, ты тут? Век не бачыліся! А што ж цябе сюды прыгнала? Запрашай у госці, пакажы, як абжылася!

Ежы С. прыехаў да Ляўшуноў у наступную нядзелю з вялікай торбай — з гарэлкай і падарункамі малому. І Жорка паставіўся — пілі ды елі доўга за поўнач, успаміналі Жорка з Ежым нядаўнія, здавалася б, гады, той час, калі Ганýся яшчэ пісяла ў майткі седзячы ў пясочніцы, а яны ўжо буянілі на забавах і скубалі дзевак.

Раніцай стары Іванко нарабіў віску на ўвесь дом. Звалок нявестку з ложка, пацягнуў яе ў „вялікую хату”, цяпер званую *салёнам*, дзе маладыя ноччу балявалі. На дыване, аплёўшыся нагамі, спалі галюткія Жорка і Ежы. Іванко аж калаціўся, хапаўся за сэрца:

— Гэта хто такое бачыў?! Што яны, кнуры гэтыя, тут рабілі?! А людочкі... — і старэча пахіснуўся, падаючы ўдарыў сівою галавой аб стол.

— Гэта так, Ежык?! То я тваё дзіцё гадую, а ты з маім мужам?! — пачала Гануся тузаць непрытомных мужчын, якія не з меншым жахам пазіралі на сябе ледзьве прадзертымі вачыма.

Жоржык сарваўся на роўныя ногі. Ужо не на кавалера глядзеў, не на раз’юшаную Ганусю, а на старога бацьку, што непрытомны скурчыўся пад сталом.

Чым гэтая гісторыя скончылася? Што думаюць пра „такую камедыю” ў вёсцы Н.? Паедзьце, запытайце. Бабы кажуць, Еўропа прыйшла да нас, то і цікавей жывецца, чуючы пра такія *штукі*. Толькі шкада, што цяпер пустуе толькі што абноўленая хата Ляўшуноў на Паторцы. Іванку пахавалі, Гануся з малым з’ехала ў Беласток, а Жорка, кажуць, у Бельгіі сядзіць, шукае сабе занятку. Быццам не было працы тут, у нас.

**Міра Лукша**

## Бібліяграфічны куточак

*Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej, T. 22. BIAŁORUTENIKA. Pod redakcją naukową Alberta Bartoszewicza. Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa 1995, ss. 170:*

PRZEDMOWA, s. 5.

ŽURAUSKI A. I.: Belaruskae movaznaustwa na sučasnym etapie, s. 7-16.

ŠAKUN Leú: F. Skaryna ú historyi belaruskaj litaraturnaj movy, s. 17-20.

TIMOSZUK Mikołaj: Z naziranniaú nad leksikaj tvoraú Jakuba Kolasa, s. 21-30.

KONDRATIUK Michał: Niektóre problemy badań onomastycznych w regionie białostockim, s. 31-38.

OMELJANIUK Nina: O dialektyzmach w białoruskim języku literackim, s. 39-46.

JASIŃSKA Teresa: Rzeczowniki rodzaju żeńskiego na -aja/-jaja w funkcji lokatywnej w języku białoruskim, s. 47-50.

CHYLAK Teresa: Osobliwości w zakresie odmiany zaimka białoruskiego na podstawie tekstu białoruskiego tłumaczenia *Pana Tadeusza*. Przyczynek do rozwoju normy literackiej języka białoruskiego, s. 51-58.

BIAŁOKOZOWICZ Bazyli: Mikołaj Janczuk jako badacz pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego, s. 59-74.

STOCHEL Włodzimierz: "Nasza Niwa" i literatura polska, s. 75-80.

AKSAMITAU A. S.: Ab nekatarych asablivascjach movy belaruskaj vjasel'naj paezii, s. 81-94.

BARSZCZEWSKI Aleksander: Białoruski folklor związany ze śmiercią i pogrzebem we wschodniej Białostocczyźnie, s. 95-110.

SIELICKI Franciszek: Białoruska przypowieść ludowa, s. 111-114.

CZURAK Maria: Folklor w *Kalendarzach białoruskich*, s. 115-120.

NIEUWAŻNY Florian: Uwagi o twórczości białowieskich poetów z ugrupowania *Białowieża* , s. 121-132.

JURKOWSKI Marian: Motyw drogi w poezji Białowieżan, s. 133-142.

SMASZCZ Waldemar: *Gdzie Rzym, gdzie Krym, a gdzie moja Ojczyzna...* (W kręgu poezji Jana Czykwina), s. 143-154.

SKIBIŃSKA Zofia: O jednym z polskich przekładów *A kto tam idzie* J. Kupały, s. 155-158.

PANASIUK Nadzieja: Perakladčyckaja dzejnasć Belavežcaú, s. 159-166.

GŁUSZKOWSKA Jadwiga: Badania naukowe prowadzone przez Katedrę Filologii Białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego w ciągu trzydziestu lat jej działalności, s. 167-170.

**Р. С.**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XXXII

У сённяшнім адрэзку прызнанняў бацька заканчвае свае разважанні аб рэлігійных тэмах і ацэньвае пасляваенную рэчаіснасць у аспекце паводзін беларусаў. Досыць адмоўна характарызуе ён захаванне жыхароў усходняй Беласточчыны ў адносінах да нацыянальнай справы і скептычна глядзіць на магчымасць беларускага адраджэння.

„Ну, каб ужэ поўнасцю закончыць наш разгавор аб рэлігійных дзелах, то я яшчэ хачу табе сказаці штось такое. Я ўжэ табе гаварыў, што калі я служыў у рускай арміі ў Модліне, то там было кілька палякаў і што я крыху дружыў з адным з іх. А называўся ён Кжыштоф. Але дружыў я з ім толькі да часу. Бо было гэто так. Я яго аднаго разу спытаў, што было б, калі б у той вёсцы, дзе ён жыў, якісь жыцель перастаў хадзіці ў касцёл і сказаў, што ён ніверуюшчы. А гэты Кжыштоф мне на гэта бабахнуў такое: „Taki człowiek to byłby potępiony przez Boga, przez księdza i przez ludzi. Takiego człowieka to można i pobić, i nie wiem jak skrzywdzić, i nawet zabić i za to wszystko nie byłoby żadnego grzechu”.

То ты знаеш, як гэто ад яго пачуў, то мне ад яго штось адапхнуло і перастаў з ім увогуле дружыці і калегавацца.

Ну але гэто яшчэ ні канец. Калі мяне пасля акцябрскае рэвалюцыі знялі з фронту і завезлі ў Маскву, то я ні раз бачыў як вялі ў цюрмы арыштаваных папоў. Ну але найгоршэ то тое, што да нас у нашэ падраздзяленне час ад часу прыводзілі папоў і манахаў і яны нам гаварылі, што Бога німа, што яны ні верылі і ні верат, і што яны сазнацельно ашукоўвалі народ. То ты знаеш, мне праціўно было слухаці, бо вядома ж было для ўсіх, што гэтых папоў прымусіла так гаварыці Чэка. Я, праўда, гэтаго ні бачыў, але многія салдаты гаварылі, што бачылі як бальшавікі расстрэльвалі папоў і манахаў. То якраз тады я сабе ўспомніў таго Кжыштофа з Модліна і падумаў, што ён гаварыў аб няверуюшчых і тое што рабілі бальшавікі з веруюшчымі, то гэто тое самэ. І там насіліе і тут насіліе. Кжыштоф хацеў забіці за тое, што хтось ні верыў, а бальшавікі забівалі за тое, што хтось верыў. І таму я табе скажу так. Я ні знаю, чы ты верыш чы ні верыш. Але калі ты верыш, то ніколі ні нападай на таго, хто ні верыт. А калі ты ні верыш, то ніколі ні нападай на таго, хто верыт. Кажды чалавек павінен жыці ў свабодзі і ніхто яго ні мае права страшыці ні Богам, ні чортам. Я то думаю так: калі ест Бог і калі будзе страшны суд, то ён пакарае найбольш тых, хто страшыў людзей. Бо кажды страх гэто ніволя ўсероўно чы рэлігійна, чы бальшавіцка.

Я ў сваім жыці то бачыў розных дурняў і праступнікаў. але найгоршы дурні і праступнікі то тые, што заганяют людзей сілаю ў рэлігію або сілаю адганяют ад рэлігіі. Ты ад такіх дуракоў уцікай як найдалей. Абыходзь іх так, як парадачны людзі абыходзяць г... на сцежцы. От, гэто мая рада для цябе.

Ну, а цяпер то яшчэ я хацеў бы сказаці тое-сёе аб нашай родзіні. Нідаўно паявіўся тут сын Васіля Пуні. Ні было яго так лет дзесяць, дзесь валачыўся, нават гаворат, што сідзеў ці што. І ты знаеш, што ён мне заспіваў? Ну ён сам, чы хтось з яго знаёмых быў у Заходняй Германіі і пабачыў, што там вельмі добрэ людзі жывут. Ну, і пасля гэтаго, значыцца, ён мне гаворыт: „Знаеце, дзядзьку, беларусы, палякі і рускія без патрэбы ваявалі з Гітлерам. Калі б былі ні ваявалі, але яго слухалі, то ўжэ ў нас даўно было б такое жыце, як цяпер у немцаў. Трэба было пазволіці зрабіці Гітлераві вяліку Германію і завесці новы парадок”.

Ну, то ты сабе падумай, якое глупства можэ прысці ў голаў балбаям. Ты ж толькі паглядзі, як прышлі немцы да нас то закрылі млыны і забаранілі малоці збожэ. Забаранілі калоць свіней і рэзаць жывіну. Забіралі пачці ўсё малако. Ну але гэто то глупство. Я тут сабе ўсё палічыў дакладно. У нас у Бандарах было ў час вайны семнаццаць хат, жыла ў іх 21 сям’я, бо ў штэрох хатах жылі па дзве сям’і, усіх людзей у вёсцы было крыху больш як дзевяноста чалавек. То ты знаеш, што немцы вывезлі на работы ў Германію дваццаць чалавек. Гэто значыт больш, чым адну пяту ўсіх людзей. А калі ўзяць у ўніманне маладых, то вывезлі пачці што палавіну маладзёжы. І гэто яшчэ ні ўсё. Немцы забілі з нашае вёсачкі сем жыцелёў: Мішу і Васіля Міруцёў, старога Пуню і яго жонку Марыйку, а таксамо іх сыноў Аляксея і Юліка, ну і яшчэ забілі Зосінаго Коліка. Ты толькі падумай, колькі жэртваў з аднае вёскі. Ну, а колькі згінула з нашае, як ты кажэш, малое і вялікае Родзіны? Ну і пасля гэтаго гаварыць пра Гітлера як пра дабрачка, каторы хацеў нам зрабіці добрэ жыце, можэ толькі вялікі дурань. Тым больш, што якраз Гітлер выбіў усю сям’ю Пуняў, з каторае паходзіў той хлопец, каторы мне гаварыў гэты глупствы пра Гітлера.

Ну то ты мне скажы, калі гэто наша родзіна будзе незалежна? Калі яна мае такіх дзяцей, як гэты Пунёў хлопец? Але ж і ўсе мы ні такіе, як палякі ці рускіе. Мы ж усе наплевацельскі адносімся да родзіны. Ты паглядзі. Бывае, што сядзімо на лавачцы і гаворым па-своему. Возьме і паявіцца якісь адзін паляк і мы ўжэ ўсе запшэкалі. Ну а калі я пападу дзесь у мазуры і адазвуся па-своему, то што — яны загаворат па-беларуску? Барані Божа! Гэты язык наш то для іх абраза і пазор. От бачыш, які мы народ і наша родзіна. Калі разабрацца, то німа ні аднаго, ні другого”.

**Алесь Барскі**




## Восень залатая

Восень залатая —
Усім нам дарагая,
Напамінае цёплае лета...
Бо Зямля-планета
Круціцца і верціцца.
У галаве не месціцца
Як Бог усё стварыў
І жыццё дарыў.
Восень — Яго праява
І зямная слава.
Усё нібы замірае,
А ў сапраўднасці — засынае
Як звяры, расліны,
Кажаны, маліны;
І шмат чаго іншага,
Ніколі не лішняга.
Птушкі ляцяць у свой вырай —
Гэта адвечны звычай:
У дарозе не заблудзяцца
І не замарудзяцца.
Інстынкт вядзе іх дзе трэба
Шукаць цяпла і хлеба.
Але радзіма іх тут,
Вясною вяртаюцца ў родны кут.
Восень — гармонія, прыгажосць натуры,
Не чуваць вялікай буры,
Маланка рэдка зазіхаціць,
Соннай ноччу яе не схапіць.
Восень не ўсім зразумелая,
Чароўная яе спеласць,
Не ў сілах мы ўсе яе дары пранясць
І да чагосьці роднага параўнаць.
Восень прыгожая, чыстае паветра,
Дуюць на нас розныя ветры
Цёплыя і халодныя; чароўная цішыня,
Ночка зорная — галоўны старшыня.
Усебакова я восень пазаважаю
І ў думках цёпла праважаю
Калі адыходзіць у нябыт
Яе незабыўны каларыт.
Не значыць гэта, што ўсё замірае:
Восенню многа чаго ажывае —
Азіміна з зямлі дае ход
Каб праз год даць плён — новы род.
Паявіліся ў нас новыя птушкі,
Збіраюць семечкі і мушкі.
Пад дрэвамі красуюць лісты і галінкі,
Чаруюць чырвоныя плады калінкі.
Восень не спіць, а збірае плады,
Ставіць стройна ў свае рады
Каб не прапала
І Тварца праслаўляла.
Дае час, каб зіму прывітаць
І на яе не злаваць.

**Мікалай Панфілюк**

## ВІРАВАНКА



1. горы з Эльбрусам, 2. прылягае да шыі, 3. насланая на што-небудзь паверхня, 4. поезд, 5. гара ў 1, 6. італьянскі кінарэжысёр („Дарога", „Рым"), 7. горад у Чарнагорыі, 8. планета, 9. сібірская рака, 10. боепрыпас для стральбы, 11. горад на поўдні Беларусі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 39 н-ра**

**Гарызантальна:** клін, хваля, Уганда, БССР, Дрэйк, маклер, матавіла, паром, Кашгарыя, цемрашал, рвота, акупацыя, штукар, ясень, арол, Лаплас, вуаль, арда.

**Вертыкальна:** сварка, кляймо, ластаўка, Нурмі, чарка, удзел, Камчатка, алегорыя, Поці, рама, ярмо, ляда, алкалоід, вястун, тунель, атрад, акула, ураса.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

**Міні-даведнік**

**Нікшыч** — горад у Югаславіі.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Вельмі прашу, разгадай мае сны.

Сніцца мне, што ў мяне на руках чатыры абручальныя пярсцёнкі. Яны ўсе залатыя. На левай руцэ ў мяне на сярэднім пальцы два вузкія пярсцёнкі, а на правай на двух пальцах — шырокія.

Другі сон. Ізноў сніцца мне, што на правай руцэ ў мяне абручальны пярсцёнак. Ён увесь белы, а пасярэдзіне яго — залатая палоска.

На трэцюю ноч мне сніцца зноў дзіўны сон. Быццам у мяне на панадворку прывязаны да плоту вялікі чорны, прыгожы сабака. Сабака гэты вельмі злосны і не дае нікому падысці да плота. Аднак жа, калі я падыходжу да яго, ён вельмі спакойны і дазваляе сябе гладзіць.

Дарагі Астроне, прашу цябе, дай хуткі адказ у „Ніве".

**Твая сталая чытачка**

Сталая чытачка! Першыя твае два сны прадвяшчаюць табе вяселле! Аб гэтым менавіта сведчаць тыя залатыя абручальныя пярсцёнкі. Што датычыцца другога сну, дык ведаеш, як гэта бывае з сабакамі. Калі злосны і кідаецца да цябе, так і знай, што маеш нейкіх злосных ворагаў. А гэты ж сабака кідаўся да ўсіх, ды толькі не да цябе. Пры табе суцішыўся і дазволіў пагладзіць яго. Магчыма, гэты сабака прадвяшчае табе, што нейкі чарнявы і прыгожы, але дагэтуль непакорны хлопец пакарыцца табе. Можа гэта і будзе твой муж.

**АСТРОН**

Забыты фальклор

## Сватаная

О то дзеўка, о то хват,
на усе тут вёскі,
Хоць павесь на добры лад,
дык шкада бярозкі.
Як вынесе хусце праць,
вада усё змые,
А як выйдзе ў поле жаць,
дык плача аж вые,
Нажне жменьку або дзве —
зусім абамлее,
Сярпом руку разарве
і вецер падвее.
Не карову, а быка,
усё даіць хоча,
А як няма малака,
дык яна рагоча.
Няхай на іх, казаў воўк,
на гэты цялушкі,
Я у вымя тоўк ды тоўк —
вымя як падушкі;
Хоць бы капельку далі,
а то ані каплі,
Мусіць ведзьмы заклялі,
пабягу да бабкі.
Каб ёй есці не варыць
і печкі не топіць,
А так носам будзе рыць,
есці — што ухопіць.
Як стаўляе гаршчкі ў печ,
з носа цякуць соплі,
Як вымае гаршчкі прэч,
дык стравы ні кроплі.
А як поле, — чыста так,
толькі што надзіва,
Як угледзіць дзе бурак,
кажа што крапіва.
А як прадзе то йшчэ як —
бурчыць калаўротак,
Бунцык лёну так звядзе,
што не выйдзе й мотак,
Адна талька ў хамут
ледзве пераскочыць
А абрыўкаў цэлы жмут
за печ завалочыць.
Як паставіць кросны ткаць,
то аж да Якуба,
А тут пара ўжо жаць —
вось наткала люба.
А танцуе то йшчэ як —
як цяля ўпілося,
Парве чыста андарак
і лапці дабоса.
А спявае, як сава
зайца выклікае:
Аж трасецца галава,
так яна гукае.
А багацця поўны мех,
завязаны жычкай...
Не смейцеся — то не смех —
там дзіця з калыскай.
Нуце, хлопцы, я вам сват,
яна маладая,
Толькі цяпер, пасля свят,
акрайкі скідае.
Хто не возьме, будзе рад
і не параўнуе,
Будзе дзялоў рабіць шмат
і ўсё дапільнуе.

**Пяцідзесяцігадовай даўнасці верш прыпомніў**
**Аляксандр Барташэвіч**

## Народны каляндар — лістапад

Шэрань на Піліпа абяцае ўраджай на авёс.

Пакуль ліст з вішнёвых дрэў не апаў, колькі б снегу не выпала, ён усё роўна сыдзе.

Першы трывалы снег выпадае ноччу.

Мышы ў лёне робяць гнёзды — зімой будзе вялікі снег.

Асенні мароз не выцісне слёз, а зімовыя марозы — з вачэй слёзы.

Калі ў лістападзе туман — узімку адлігі.

Калі лісце ападзе не чыста — будзе вострая зіма.

Частыя лістападаўскія дажджы — лета будзе мокрае.

Сырое лета і доўгая восень — перад доўгай снежнай зімой.

Праясняецца на ноч пахмурны дзень — варта чакаць замаразкаў.

Позна ўвосень з'явіліся камары — зіма прадбачыцца мяккая.

Высока ляцяць гусі — снегу будзе шмат, нізка ляцяць — мала.

Калі на дзень Міхаіла (21 лістапада) упаў іней — зіма будзе снежная.

*Падборку зрабіў*
**Янка Целушэцкі**

## Выязная сесія сеймавай камісіі

5 і 6 кастрычніка г.г. сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей адбыла два пасяджэнні ў Лідзбарку-Вармінскім і Ольштыне. Больш за 8 прац. жыхароў ваяводства складаюць меншасці, якіх сужыццё з большасцю складваецца добра. Дбае пра гэта дзяржаўная адміністрацыя як і некаторыя самаўрады. Ваявода Януш Лоранц па сваёй уласнай ініцыятыве першым у Польшчы ўстанавіў упаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей, якім стаў Віктар Марэк Лейк. Таксама першай у краіне вылучыла са свайго складу камісію па справах меншасцей Гарадская рада ў Лідзбарку-Вармінскім. Чаму не робяць гэтага ў Беластоку, дзе так многа пражывае беларусаў? — пытаю.

— Лідзбарк-Вармінскі выбралі мы месцам нашага выязнога пасяджэння таму, каб іншыя самаўрады, на якіх тэрыторыі пражываюць меншасці, пайшлі праложанымі тут слядамі, — сказаў пасол Ежы Штэліга. — Ольштынскія ініцыятывы будзем распаўсюджваць усюды там, дзе жывуць не толькі палякі. Дарэчы, гэта вельмі цэніцца Еўрапейскім Саюзам, стаць членам якога стараецца наша дзяржава.

— Сеймавая камісія нацыянальных меншасцей мусіць праверыць дзеючыя законы аб партыях і арганізацыях, — сказаў Стэфан Мігус, старшыня ольштынскага аддзела Саюза ўкраінцыў у Польшчы. — Мы ўсе плацім налогі, а не маем сродкаў ні на свае святыні, ні на асветную ці культурную дзейнасць.

Ваявода Януш Лоранц прапанаваў, каб ольштынскія фірмы супрацоўнічалі з Украінаю і Беларуссю, а іх партнёры — фінансавалі культурна-асветную дзейнасць меншасцей так у нас, як і ў Беларусі і Украіне.

На заканчэнне Ежы Штэліга сказаў, што будзе дамагацца, каб ваяводы атрымалі сродкі на патрэбы культурна-асветнай дзейнасці грамадзян іншых, чым польская, нацыянальнасцей.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Хто нарадзіўся ў лістападзе

1. Скрыты, разумны, захоўвае тайны блізкіх.
2. Востра асуджае іншых.
3. Прадбачлівы, цярплівы — ходзіць у жыцці ўласнымі сцежкамі.
4. Чуйна сцеражэ свае інтарэсы.
5. Пранізлівы, скептычны, настойлівы.
6. Яго сімпатыі і антыпатыі вельмі моцныя.
7. Прагны ўлады і не любіць крытыкі.
8. Уражлівы на пахвалы і вымовы.
9. Тонкі, асцярожны, дыпламатычны — патрапіць быць загадкавым.
10. Вынаходлівы — умее знайсці выйсце са складанага становішча.
11. Упарты, імкнецца да пастаўленай сабой мэты, не любіць парад іншых.
12. Энергічны, старанны, шчыры — заўсёды чымсьці заняты.
13. Уражлівы на асобы адменнага полу. Далікатны.
14. Рашучы — ненавідзіць слабасці.
15. З'яўляецца аўтарытэтам для многіх, умее пераконваць. Актыўны ў жыцці. Працалюбівы.
16. Любіць адкрываць чужыя тайны. Праяўляе арганізацыйныя здольнасці.
17. Праніклівы, кемлівы, руплівы — цікавіцца ваеннай тэхнікай. З'яўляецца цудоўным канструктарам.
18. Ніхто яго не правядзе.
19. Прадпрымальны, практычны.
20. Не можа знесці несправядлівасці.
21. Актыўны, неспакойны, любіць свабоду і незалежнасць.
22. Бярэ на сябе многа абавязкаў. Любіць м.інш. падарожжы.
23. Імкнецца ўсё спазнаць. Хутка наладжвае кантакты з людзьмі. Згодна супрацоўнічае з імі.
24. Непаседлівы, верыць у свае сілы.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Прыпеўкі

Я па мосціку іду,
А мосцік хітаецца,
Я бяззубую люблю —
Бяззубая не кусаецца.

Мая міла маленька,
Чуць пабольша валенка,
У лапці абулася,
Як балон надулася.

Мая міла пахудзела,
Нічога не кушаець,
Лапці на вушы надзела
І радыё слушаець.

У Беластоку на базары
Кабету прыціснулі,
Далі мільён утаргаваць,
Сто мільёнаў свіснулі.

**Запісаў Аляксандр Барташэвіч**

# ЗБМ — НОВАЕ ТЛУМАЧЭННЕ

Звяз беларускай моладзі, гэта, безумоўна, эліта. Абы-каго туды не прымаюць. Абы-чаго пра іх і не скажаш. Сябры арганізацыі пра ўнутраныя справы вонкі гаварыць могуць толькі па выразнаму дазволу старшыні. Гэта, як заўсёды ў атмасферы засакрэчанасці, спараджае міфы. Адзін з іх — магутнасць і баяздольнасць ЗБМ. Кармілася ім беларуская моладзь, палохаліся польскія скіны. Рослыя хлопцы ў чорнай вопратцы з белым ярылаўскім крыжам на грудзях аднак маўчалі і толькі загадкава ўсміхаліся на недвухсэнсавыя намёкі на іхнюю магутнасць. Аж узяло і ўсё раз'яснілася.

На фестываль „Бардаўская восень" прыйшла групка бельскіх жулікаў з адназначнай мэтай — пабіцца. У зале Бельскага дома культуры сабралася ўся ЗБМаўская эліта. Здавалася, дзверы будуць зацесныя для вылятаючых цел нахабнікаў. А тым часам што здарылася? Жменька хуліганаў хадзіла і спакойна клеіла па мухаедах аднаго ЗБМаўца за адным, пасля чаго спакойна пакінула дом культуры.

Кажуць, што неразраджаную энергію скіравалі яшчэ на сапраўдную бойку — ужо між сабою, у горадзе. А ў гэты час ЗБМ падымаў з падлогі сваіх сяброў і аглядаў нанесеныя пабоі.

У той восеньскі вечар зрадзілася новае тлумачэнне абрэвіятуры — Звяз Бітых па Мордзе.

**ак**






Мал. Леаніда Разладава

# ДЗВЕРЫ

Я знайшоў дзверы. У кустах. Каля нашага дома. Ляжалі, мабыць, з паўгода. Бо ўжо зараслі травой.

Ускінуў на спіну. Панёс у жыллёвую кантору:

— Вось вазьміце... Валяліся ў кустах...

— Шмат чаго валяецца ў кустах. Наша кантора — не сметнік...

Прынёс. Паставіў ля дома. Напісаў на іх крэйдай: „Чые дзверы? Забярыце!"

Выходжу раніцай. Ніжэй свайго надпісу чытаю: „Шукаеш дурнейшага? Каб тваё смецце выносілі..."

Усеўся на дзвярах. Думаю. Яшчэ паслужаць. Шкада дабро выкідаць.

Прывалок да сябе на балкон. Адгадзіцца ад суседа? Пакрыўдзіцца.

— Прасі дзялянку, — падказала жонка. — Будзем будаваць дачу.

Падаў заяву. Разглядалі два гады. За гэты час я аб'ездзіў на сваім „КрАЗе" паўкраіны. Там цагліна на дарозе траплялася — у кузаў. Там дошка — у кузаў. Знайшоў на дарозе ўсё. Акрамя шкла для акон. І шпалераў. Збудаваў. Не дача, а палац. Набраў поўны кузаў суседзяў. Прывёз адкрываць сезон.

Прыцмокваюць. Нахвальваюць.

— Няўжо і кацёл паравога ацяплення на дарозе валяўся?

— Уявіце сабе. Пад Бабруйскам...

— А вось гэты вятрак, які ганяе ваду?

— З-пад Марыупаля прыпёр... У нас толькі рабочая сіла на дарозе не валяецца. Бо яна — у кустах. А так усё можна знайсці...

Праз тыдзень мяне запрасілі ў міліцыю. Вельмі ветліва прапанавалі падрыхтаваць дакументы на ўсе матэрыялы, з якіх я збудаваў дачу.

— Ды вы што, хлопцы! — не стрымаўся я.

— Мы не „хлопцы". Мы міліцыя. Змагаемся з раскрадальнікамі дзяржаўнай маёмасці. Дарэчы, дзверы, з якіх, па вашых словах, усё пачалося, — з гары дома, у якім вы жывяце. Народнае дабро трэба берагчы, грамадзянін Курыпачка, а не расцягваць.

**Яўген Дудар**
*Пераклад з украінскай Валерыя Бабея*

# Смех у санаторыі
## або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Размаўляюць два сябры:
— Здароў, што ў цябе?
— Жонка мяне кінула.
— Дык утапі жаль у гарэлцы.
— Гэта немагчыма.
— Чаму: не маеш грошай?
— Не, не маю жалю.

* * *

Настаўніца на бацькоўскім сходзе:
— Ваш сынок, пан Кавальскі, вельмі слабы па геаграфіі.
— Нічога: пры маіх даходах далёка ад дому не ўцячэ.

* * *

Сустракаюцца два сябры:
— Дрэнна выглядаеш...
— Нечага дзівавацца — такая праца: цэлы дзень трэба падымаць грузы.
— Ад калі так працуеш?
— Пачынаецца ад панядзелкаў...

* * *

Паліцыянт купляе ў краме кавалак сыра:
— На колькі кускоў парэзаць: на восем ці на шаснаццаць? — пытае прадаўшчыца.
— На восем; шаснаццаці не змагу з'есці.

* * *

— Ведаеш, — гаворыць Іван Колю, — у мяне вельмі нервовы майстар: як яго чым разазлую, зараз яго твар робіцца чырвоны...
— Гэта яшчэ нічога: калі я свайго разазлую, тады мой твар чырванее.

* * *

— Чаму паліцыянтам нашываюць на рукавы гузікі?
— Каб рукавамі насоў не выціралі.
— А чаму гэтыя гузікі блішчаць?
— Бо і так выціраюць.

* * *

Паліцыянт выбраўся на канцэрт у філармонію.
— Ці згаджаецеся, што ў гэтай зале дрэнная акустыка? — пытае сусед падчас антракту.
— Не ведаю: у мяне насмарк.

* * *

Паліцыянт убачыў у сажалцы чалавека:
— Ці вы ведаеце, што ў гэтай сажалцы нельга купацца?!
— Я не купаюся, я таплюся...
— Ну, тады выбачайце.




Даражэнькае Сэрцайка! Усё жыццё мне здавалася, што на Захадзе ўсё найлепшае, найпрыгажэйшае. Зрэшты, так у нас ужо прынялося думаць. А чаму ж бы так не меркаваць, калі ў прэсе, па радыё і тэлебачанні увесь час хваліцца ўсё, што робіцца там. Так і я думала. Менавіта, што за мяжою не толькі рай, але і свет прагрэсу ды ўсяго што найцікавейшае і наймаднейшае.

Мая сястра выйшла замуж за хлопца, у якога сваякі жывуць за мяжою, у Германіі. І доўгі час гэты хлопец таксама там жыў. У яго сваякоў ёсць таксама дарослы сын, нават старэйшы за яго. Ён яшчэ нежанаты. Мой швагер увесь час мне паўтараў, што быў бы гэта ідэальны муж для мяне. Застанешся старой дзеўкай, усё паўтараў мне. Яшчэ крыху пацягнеш, а пасля ўжо ніхто цябе не захоча. Давай я цябе пазнаёмлю з ім. Можа якраз табе спадабаецца і шчаслівa выйдзеш замуж. Усё ж такі жыццё чалавека без сям'і вельмі сумнае. Пакуль што табе добра, а вось прыдуць старыя гады, даведаешся, што значыць самотнасць. А гэты хлопец і даволі прыгожы, і багаты, і вілу мае, а што сорак гадоў хутка будзе мець — гэта няважна.

Як наважыўся мой швагер, так і зрабіў. Дамовіўся з тым сваім сваяком, што мае для яго дзяўчыну, і запрасіў яго да сябе. Аднак жа яго сваяк з Германіі сказаў яму, што прыехаць то ён прыедзе, але жыць будзе ў гатэлі. Не любіць ён нікому перашкаджаць. Першая сустрэча адбылася ў кавярні, у гатэлі. Сустрэліся мы ўчацвярых: мая сястра з мужам, госць і я.

Чалавек гэты на вока быў даволі прыемны, хаця ўжо не першай маладосці. Мне было дваццаць два гады, але я думала, што на выгляд ён падобны на мяне. А тут ужо і лысіна. Ну але што ж, і лысыя людзі жывуць ды жэняцца. Калі гаварылі, ён здаваўся мне даволі прыемны. Аднак жа гутарыў большай часткай з маім шваграм па-нямецку, і толькі зрэдку пераходзілі на польскую мову.

У пэўным моманце госць устаў, а швагер перапрасіў за яго, што той вымушаны быў выйсці ў туалет, паколькі ў яго сапсаваўся жалудак. Мінут праз дваццаць госць вярнуўся з таго туалета. Мне было не зусім прыемна, паколькі ў нас уголас пра некаторыя фізіялагічныя справы не гавораць. Колькі я ведала хлапцоў, дык кожны ў такіх выпадках гаварыў, што ён ідзе ў туалет памыць рукі. Але, відаць, у іх такія звычаі.

Вярнуўшыся, госць быў неспакойны. У пэўным моманце мужчыны нешта перагаварылі між сабою, і швагер пераклаў мне з нямецкай мовы, што ён мусіць ісці ў пакой падмыцца, бо там у іх народ культурны — калі толькі сходзіць у туалет, абавязкова падмываецца. Я падняла ад здзіўлення бровы, калі швагер запрапанаваў мне пайсці з ім наверх. Але ён мяне так умела перашканаў, што варта ўбачыць, як выглядаюць нашыя гатэлі ў сярэдзіне (а я, мушу табе прызнацца, яшчэ ніколі ў гатэлі не жыла), што я, быццам пад нейкім наркозам, рушыла з толькі што ўбачаным чалавекам у яго пакой.

Сапраўды, у ванне ён доўга хлюпаўся, мо мінут пятнаццаць, а я сядзела як дурная, уставіўшы вочы ў тэлевізар. Нарэшце ён выйшаў з ванны. У пушыстым халаце і тапачках. І адразу — да мяне. Усадзіў мне язык у вуха, а мяне быццам ашпарыла. Ад агіды я адскочыла ад гэтага чалавека. Божа, да чаго дайшла людскасць! Я кінулася да дзвярэй, а ён прытрымаў мяне. Пачала з ім тузацца і нарэшце вырвалася з яго абдымкаў на калідор.

Унізе я налецела на швагра: Што ты, свіння, робіш, каго ты мне падстаўляеш?! Я ж чалавека не ведаю, першы раз яго ўбачыла, а ён да мяне з такімі фокусамі. І гэта меў бы быць мой муж?! Я завярнулася на пяце і выскачыла з гэтай кавярні, а ў хаце дала волю слязам. Божа, няўжо яны ўсе такія агідныя там на Захадзе?..

**Марта**

Марта! І на Захадзе, і ў нас на Усходзе агідных людзей не бракуе. Але агіда гэтага чалавека праявілася ў тым, што ён рабіў гэта як бы праднамерана, вызначыўшы сабе мэту — без кахання, без пачуцця. Усё як па сцэнарыю: гатэль, дзяўчына, а твой швагер у ролі альфонса. Яшчэ падзякаваць Богу, што ўлажыў у тваё вуха толькі язык. У іх там робяць лепшыя фокусы.

**СЭРЦАЙКА**